УДК 908.476+882.6-4
ББК 26.891

С57

*Серыя заснавана ў 1998 годзе*
*Грамадскія рэцэнзенты Сяргей Давідовіч і Мікола Станкевіч.*

*Грошы на выданне ахвяравала Клара С.*
*з сынам Маратам ды нявесткаю Таняй.*

**Содаль У.І.**
Карпілаўка: Краязнаўчы нарыс.— Мн.: Пейто, 2001 — 80с., іл.— ("Ведаць свой край Беларусь").

**ISBN 985-6024-36-6**

Серыя "Ведаць свой край Беларусь" папоўнілася сёмай кніжкай. Да беларусаў разам з Ядвігіным Ш. вярнулася лагойская Карпілаўка. А з ёй ажыла яшчэ адна часцінка нашай гістарычнай памяці.

Літаратурна-мастацкае выданне
Уладзімір Ілліч Содаль
**Карпілаўка**
Краязнаўчы нарыс

Адказны за выпуск дырэктар выдавецтва
Віктар Хурсік.
Камп'ютэрны набор Алены Хурсік.
Карэктура аўтарская.

Падпісана ў друк 09.03.2001. Фармат 84х108 1/32. Папера газетная. Гарнітура School Book (Школьная). Афсечны друк.
Друкарскіх аркушаў 2,5. Тыраж 415 экз. Заказ 166.

Ліцэнзія ЛВ 30 выдадзена 20.08.97
*Льгота на падатак: АК РБ 007-98 ч. 1 22. 11. 20. 600*
Выдавецтва "Пейто".
220117, Мінск, prасп. імя газеты "Известия", 57/31.
Тэл. 2703382
Надрукавана з арыгінал-макета выдавецтва "Пейто"
ў друкарні УП "Ходр" ГА "БелТІЗ".
220004, Мінск, вул. Вызвалення, 9.
ЛП №91 ад 12.12.1997.

На тытульным лісце выява герба "Біберштэйн" роду Лявіцкіх.

**ISBN 985-6024-36-6**

## *АД ВЫДАЎЦА*

*Пятага чэрвеня. Цёплы летні дзень. Сонца залівае святлом паляну, што ля санаторыя "Світязь". Сабраўся тутэйшы люд. Чакае гасцей — беларускіх пісьменнікаў. Яны павінны прыехаць на свята паэзіі. Спазняюцца. Нервуецца галоўны арганізатар — намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў — Віктар Жак, крыху прытаміліся з чакання шаноўныя госці. І вось, нарэшце, аўтобус вынырнуў з-за дубоў. Адразу ж чуецца родная гаворка, жарты, смех. Сярод іншых Уладзімір Содаль — вядомы біёграф Францішка Багушэвіча. У вышыванай кашулі, у шырокім саламяным капелюшы ён выглядае сапраўдным волатам, хаця гады ўжо зрабілі свае сляды. Ля шырачэзнага пня з колішняга Міцкевічавага дуба мы знаёмімся і без цяжкасцяў знаходзім агульную мову. Уладзімір Ільліч ухваляе ідэю выдання кніжнай серыі пра беларускія вёскі і абяцае рукапіс пра Карпілаўку.*

*1998 год. Гэта хоць і не далёкая, а ўжо гісторыя. Пакінуў гэты свет Віктар Жак, так і не здзейсніўшы свае шматлікія праекты і задумы. Паабяцаны спадаром Содалем рукапіс увасобіўся, ў кніжачку. На падыходзе іншыя: імёны і назвы, але першыя — ёсць першыя. Ім асаблівая ўдзячнасць за бескарыслівасць, за падтрымку праекта, за парады і сумесны пошук крыніц фінансавання. Нашы памкненні ў сваёй саматужнасці нагадваюць шлях краязнаўцаў 1920-х гадоў: любымі намаганнямі данесці да народа праўду аб Беларусі. Але хочацца спадзявацца, што на гэты раз яны будуць недарэмныя.*

*Віктар Хурсік,*
*краязнаўца, журналіст.*

***Матулі сваёй прысвячаю***
*Яна часта кажа: "Што грошы — былі і няма.*
*А кніжачка — гэта памяць і пра сябе, і пра людзей."*

## *ПОЗВА*

*"Вось бо ўзгорак, а там — у долі векавыя дубы, ліпы стаяць — мае дубы, мае ліпы! Сад відаць — мой сад! А ўжо пры самым лесе паміж розных дрэў выглядае дамок. Мой дамок! Мой! Апісаць вам яго? Як жа я апішу, калі ён мой?! Бягу, ляту да яго!.."*

*З гэткім настроем закончыў сваю працяглую — чатырохсот-кіламетровую вандроўку, пешую, па Беларусі Ядвігін Ш. Што й казаць, вельмі шчымлівыя і кранальныя словы! Яны ўражваюць! Пра адно толькі можна пашкадаваць, што пісьменнік не апісаў падрабязна для гісторыі, для нашчадкаў сваю сядзібу, свой дамок. Мо думаў зрабіць гэта пазней, іншым разам. А мо падумаў: "А нікуды мая гэтая сядзіба не дзенецца... Стаяла сто гадоў — пастаіць і яшчэ сто..." Ды ўсё сталася, на жаль, інакш. І вось праз шмат гадоў гэта даводзіцца рабіць мне, па крупінках збіраць тое, пра што мы маглі даведацца, як кажуць з першых вуснаў.*

*Першы раз трапіў я ў Карпілаўку гадоў трыццаць таму. І адкрыў яе мне, гэтак жа, як і іншыя славутыя мясціны паблізу Мінска, нястомны вандроўнік Павел Дзядзюля, тады яшчэ малады выкладчык колішняга Інстытута замежных моў. Ён, памятаю, з шчырым болем на сэрцы казаў: "Вакол Мінска гэтулькі маляўнічых мясцінаў, гэтулькі колішніх сядзібаў — Малыя Бясяды, Відагорыч, Самойлава Казіміраўка, Купалавы Акопы, Ляўшова, Харужанцы, Бараўцы, Міхалішкі, Карпілаўка Ядвігіна Ш... І ўсё гэта побач, поруч, адно пры адным. А ніхто іх не спазнае, не наведвае. Ніхто імі не цікавіцца. Каб гэта было дзе ў Расіі ці ў Прыбалтыцы, то там бы кожную сцежку ўшанавалі б. А ў нас пра гэтыя мясціны амаль ніхто не згадвае. Вельмі дзіўна ўсё, калі не сказаць больш шчыра, незразумела, чаму так.*

*Пякельная Паўлава крыўда, вядома ж, перадалася і мне, дый не толькі мне. Але я тады не ведаў, з чаго пачынаць, за што брацца. І творчасці Ядвігіна Ш. як след не ведаў. І ягоная грамадская праца мне, дый не толькі мне, была малавядомая, нязнаная. Але вось пакрысе наш, а грамадства пачало адкрываць схаваную ад нас нашу гісторыю, больш поўна раскрываць яе старонкі. Высветлілася, што Ядвігін Ш. не проста пісьменнік і не проста таленавіты, самабытны, а яшчэ і самаахвярны грамадскі дзеяч. Ён блізка стаяў ля вытокаў*

*нашае дзяржаўнасці — Беларускай Народнай Рэспубліцы. Яму выпала быць поруч з тымі, хто рухаў ідэю нашай незалежнасці. На адным гуртавым здымку 1917 года, на якім Ядвігін Ш. зняты разам з іншымі беларускімі дзеячамі, на плакаціку так і занатавана: "Няхай жыве вольная Беларусь!" Гэта было задоўга да абвяшчэння і БНР, і БССР. То і напраўду, хіба сумленная Беларусь можа застацца абыякавай да такой мясціны, як Карпілаўка, дзе тварылася мастацкае і грамадскае жыццё, адкуль ішлі шчырыя клопаты пра Беларусь? Вядома, не! Проста нашай гісторыяй даецца на ўсё свой час. Вось такога часу нарэшце праз неймаверныя пакуты і прычакала Карпілаўка Лявіцкага. Няпросты і пакутлівы, быў яе лёс. Давайце перагорнем старонкі летапісу Карпілаўкі, паглядзім, якое жыццё калісь снавала тут.*

# ФАЛЬВАРАК

У Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў фондзе "Мінскі дваранскі дэпутацкі сход" захоўваецца справа пра выток шляхетнага роду Лявіцкіх. Яна сведчыць, што род Лявіцкіх — гэта стары патомны шляхецкі род. Меў ён некалькі разгалінаванняў. Карыстаўся гербам Біберштэйн. Абрыс згаданага герба такі: шчыт, на шчыце круглы рог аленя з чатырма адгалінаваннямі ў залатым полі, на шлеме такі ж самы рог. Але не будзем заглыбляцца ў гэтыя разгалінаванні. Згадаем толькі тых Лявіцкіх, якія жылі ў Карпілаўцы. З архіўнай справы відаць: Карпілаўка — даўняя ўласнасць Лявіцкіх. Да 1832 года яна належала Тэклі Лявіцкай. Гэта быў невялікі фальварачак з адным селянінам, з адным парабэчкам. У 1832 годзе, 23 лютага, Карпілаўку адкупіў у Тэклі дзед Ядвігіна Ш. — Франц Лявіцкі. У яго было чацьвёра сыноў: Міхал — нарадзіўся 21 кастрычніка 1803 года, Восіп з'явіўся на свет 14 жніўня 1805 года, Юры падаў свой першы голас 13 жніўня 1816 года. Іван, бацька Ядвігіна Ш., нарадзіўся 27 верасня 1818 года. Была ў Франца Лявіцкага і дачка Анэля, якая ў 1816 годзе мела семнаццаць гадоў. Бабку Ядвігіна Ш. звалі Зося. Была яна з роду Альшэўскіх. Нейкі час гаспадарыў у Карпілаўцы Іван Пятроў Лявіцкі. І толькі ў васьмідзесятыя гады ўладальнікам яе стаў бацька Ядвігіна Ш.— адстаўны паручнік Іван (Ян) Лявіцкі, Францаў сын.

Паводле "Слоўніка геаграфічнага Каралеўства Польскага і іншых славянскіх краёў" Карпілаўка належала да Вілейскага павета. З Карпілаўкі да Вілейкі было пяцьдзесят сем вёрстаў. Сядзіба пры паштовым тракце з Іллі да Радашкавічаў. Па стану на 1866 год Карпілаўка мела адзін дом, адзін двор і жыло ў ёй сем жыхароў.

Антосю было гадкоў з дзесяць, калі сям'я пераехала ў Карпілаўку. А дагэтуль яны жылі ў Рамане ля Пяршаяў. Там Антось атрымаў хатнюю адукацыю. Адну зіму ён нават вучыўся ў школцы Дуніна-Марцінкевіча ў Люцінцы. Было гэта ў 1876 годзе. Але хатняе навучанне яно і ёсць хатняе. Яму ж Лявіцкаму хацелася, каб яго сын атрымаў гімназічную адукацыю, і ён пераехаў у бацькоўскі фальварак, бліжэй да Мінска, да гімназіі.

Антось Лявіцкі, як вядома, нарадзіўся ў маёнтку Добасня пад Рагачовам. Гэта была вельмі гожая мясціна! З палацам, з паркам, з ланцужком сажалак, выспачкамі, а між імі купальні, альтанкі, экзатычныя дрэвы. Вельмі рамантычным куточкам быў і засценак пад Пяршаямі на краю Налібоцкай Пушчы. Ва ўладанні гэтай пушчы ўваходзіў і славуты коліс звяроўнік графоў Тышкевічаў. І пушчай гэтай, і звяроўняй пэўны час апекаваўся Антосеў бацька. Карпілаўка

можа была і больш сціплая за папярэднія жыццёвыя прыстанкі Лявіцкіх, але прыроднае хараство і тут было не горшае, чым у тым жа Рамане. З усіх бакоў сядзібу атуляў лес. У нізовіне, у лясных абдымках, бруілася-гаманіла, віхляючы па карнявішчах, ручаінка з крынічкай. З поўначы, як баба-векавуха, расселася вялізная гара. На самым версе гары — магутны Дуб-Дзядуля. Магутны прысадзісты дуб красаваўся і паблізу гары. Пара дубоў і пры крынічцы. Непадалёку рознаколерная лугавіна з азярцом. І над усёй гэтай гожасцю і цішай — глыбокае блакітнае неба з белымі ватнымі, нібы ярачкі, хмуркамі, аблачынкамі. Вось у гэтай мясціне, абжытай Лявіцкімі, прайшлі юнацкія Антосевы гады. Праўда, у юнацтве Антось жыў у Карпілаўцы мала, пераважна ўлетку ды на зімовых вакацыях. Астатні ж час ён вучыўся: спачатку ў гімназіі ў Мінску — 1877-1884, затым, пятнаццацігадовы, у Маскве ў Вольнай Пятроўскай аптэцы. Але толькі ў Карпілаўцы ён пачуваў сябе так, як і павінен пачуваць кожны Божы створ, які ведае гнёзды свая.

Паблізу Карпілаўкі вялікіх людных селішчаў не было. Пераважалі невялікія вёсачкі, засценкі, фальваркі, аднаселлі, нават колькі маёнткаў, панскіх двароў — Малыя Бясяды, Паўляняты, Ляўшова, Харужанцы, Міхалішкі, Акопы, Рубеж ды Рубяжок, Айчызна, Буды, Лысая Гара, Здарэнне, Жукаўка. Кожная з гэтых мясцінаў жыла сваім адметным жыццём, сваім ладам. Здарэнне слыло корчмамі, манаполькай. У Прудзішчах быў тартак. Харужанцы славіліся сваімі кірмашамі. У Будах быў панскі двор. Самымі блізкімі суседзямі Лявіцкіх былі паны Кабылінскія. Жылі яны пры самым Даўгінаўскім гасцінцы. Праўда, Лявіцкія з імі асабліва не хаўрусавалі. Гаспадары навакольных з Карпілаўкай фальваркаў нічым асаблівым не вызначаліся. Гаспадарылі, гадавалі дзяцей, жылі суладна з прыродай, спракавечным укладам сваіх продкаў. А вось пра суседнія з Карпілаўкай Малыя Бясяды дык у акрузе гаварылася шмат рознага. І найперш пра яго гаспадара — Зыгмунта Чаховіча. Ён быў паўстанцам Кастуся Каліноўскага. Перажыў высылку. Меў добрую бібліятэку. Жыў ён тут нібыта паўлегальна, патаемна. І нават не ў самім маёнтку, а на яго заставе — у Калдукоўцы. Гэта за які кіламетр ад маёнтка. У яго постаці было штось раматычна арлінае. І хадзіў ён з горда ўзнятай галавой. Вочы яго, здавалася, бачылі ўсё наскрозь і ўсіх наскрозь. Гэтак жа рамантычна ён і апранаўся. Пры каўнерыку кідкі бант. На носе пенснэ. Антось Лявіцкі разоў колькі сустракаў яго на карпілаўскіх дарогах. І ў Карпілаўку ён не адзін раз заходзіў. Чаховіч ведаў, што Антосеў бацька, Ян Лявіцкі, царскі афіцэр, спачуваў паўстанцам. То з кім было ў тутэйшай глушы згадаць тыя незабыўныя

падзеі? Пра паўстанне Чаховіч расказваў натхнёна. Хоць Антось не ўсё яшчэ разумеў з яго расказаў, але яны яго ўражвалі, запаміналіся, як казкі, як паданні, як легенды. Гэтак казачна, як у марыве, ён і раскажа пазней пра паўстанне 1863 года ў сваім вершаваным апавяданні "Дзед Завала". Ды гэты паўстанцкі дух не абміне самаго Антося, перадасца яму, зробіць яго душы неспакой, хоць вонкава Антось здаваўся вельмі мірным юнаком. Ён шукаў сабе і мірны занятак. Скончыўшы чатыры класы гімназіі, наважыўся стаць аптэкарам. Чаму аптэкарам? Гэта ў яго быў адзіны спосаб як найхутчэй выбіцца на самастойны шлях жыцця. Аптэкарам стаць падказваў яму і штодзённы побыт вясковага люду. Вакол было гэтулькі хворасці, і сам ён часта хварэў. То гэты занятак быў карысны і для людзей, і для сваіх блізкіх і самога сябе. Аптэкарам стаць спрыяла сама Карпілаўка — гэтулькі тут расло розных зёлак. Усе тут збіралі іх, сушылі. І Антосева маці, Вольга, сушыла. А пры нагодзе імі не раз гаіла, лячыла. Антось вырашае, што лепшага на свеце, больш высакароднага занятку, як аптэкарскі, на свеце няма, і ён падаецца з Карпілаўкі на вучобу аж у Маскву. Было гэта ў 1885 годзе.

## КАРПІЛАЎСКІЯ КЛОПАТЫ

У Маскве Антось Лявіцкі пражыў не адзін год. Спачатку ён тут быў аптэкарскім вучнем Вольнай Пятроўскай аптэкі — гэта з траўня 1885 года да 25 чэрвеня 1887 года. Праз год ён зноў у Маскве, здае экзамен на медыцынскім факультэце пры Маскоўскім універсітэце на памочніка аптэкара ці, як запісана ў ягоным пасведчанні, аптэкарскага памочніка. Удзельнічае ў студэнцкіх хваляваннях. Затым арышт, бутырскі астрог. У астрозе перакладае на беларускую мову "Сігнал" Усевалада Гаршына. І нарэшце, пасля працяглай адсідкі ў астрозе, вяртаецца дадому-дахаты, да бацькоў. Якой жа падалася Карпілаўка яму мілай і любай пасля Масквы, пасля астрогу! Але было нямала такога, што і засмуціла яго дома. Зусім занямог бацька. А неўзабаве, праз некалькі дзён, ён ціха сканаў. Карпілаўка агарнулася жалобай. Але, як кажуць, адна бяда не ходзіць, бяда з сабой другую бяду водзіць. У фальварку надарыўся пажар: згарэў дамок, пабудаваны яшчэ дзедам. Антосю давялося на свае, яшчэ не вельмі акрэплыя плечы, узваліць усю пагарэлую гаспадарку. Ён будуе невялікую, на два канцы, хату, заканчвае аптэкарскую практыку, стажыроўку. Трохі ачомаўшыся ад побытавых клопатаў і іншай нэндзы, Антось адчуў, што не можа доўга сядзець дома, адно толькі займацца гаспадаркай. Разварушанаму маскоўскімі падзеямі, яму

хацелася штосьь зрабіць значнае, прыкласці да нечага не толькі рукі, але і душу. З Масквы ён прывёз колькі асобнікаў перакладзенага ім "Сігналу". Пераклад нагадваў, што на гэтым нельга спыняцца. Хто сказаў "а", той мусіць казаць і "б". Антосю згадалася, як калісь у Марцінкевічавай хаце, яны, дзеці, разам з пісьменнікам ладзілі ледзь не на кожнае свята маленькія спектаклі. Марцінкевіч пісаў невялічкія п'ескі, а яны ўжо вучылі іх па ролях. "Добрая гэта была завядзёнка!... А чаму б яе не падоўжыць?" — падумалася яму. І ён, акрылены згадкай пра Марцінкевіча, а таксама маскоўскімі падзеямі, асабліва размовамі ў астрозе пра долю беларуса, беларускага краю, піша неўзабаве пасля вяртання з Масквы камедыю "Злодзей". І не толькі піша, але і спрабуе яе паставіць. Яму на гэта спрыяе маскоўскі знаёмы сакратар этнаграфічнага таварыства Мікола Янчук: ён робіць спробу атрымаць дазвол цэнзуры на выданне камедыі. А калі ўжо не на выданне, то хоць бы на пастаноўку яе на сцэне. Аднак Янчуковыя намаганні былі дарэмныя. Ён не дамогся ні аднаго, ні другога. Ну што ж, чыя ўлада, таго і законы. Антось быў удзячны Янчуку і так — за ягонае жаданне хоць як паспрыяць яму. Тады ж, пэўна, Антось Лявіцкі ахвяраваў Янчуку і асобнік "Сігналу", на якім напісаў: "Паважанаму Мікалаю Андрэевічу Янчуку ад перакладцы". Аўтограф датаваны 21 сакавіком 1891 года. Мабыць, на гэтую пару п'еса "Злодзей" была ўжо напісана.

Не атрымаўшы дазволу ні на друк, ні на паказ на сцэне, Лявіцкі ўсё ж наважыўся, наперакор усім забаронам, п'есу паставіць. У ім яшчэ моцна віравала маладая сіла, яшчэ не была зломлена воля. Яшчэ жыў у ім дух маскоўскіх усплёскаў. З п'есай ён знаёміць сваіх радашкавіцкіх прыяцеляў, а таксама асвечаных навукай акалічных гаспадароў фальваркаў і засценкаў, і яны наважваюцца ставіць п'есу. Размеркавалі ролі, пачалі рэпетыцыі. Усё ішло добра. Меркавалі летам 1892 года, дзе-небудзь пасля Пятра, паказаць п'есу найперш радашкавіцкаму люду, а на выручаныя грошы заснаваць у мястэчку лячэбніцу для мяшчанаў. Але тут здарылася тое, чаго і трэба было чакаць. За колькі дзён да маёўкі была прызначана генеральная рэпетыцыя. Але да радашкавіцкага судовага следчага прыехаў з Вілейкі, нібыта на госці, павятовы пракурор, які дазнаўся пра пастаноўку п'есы, што не прайшла цэнзуры. Пракурор даў зразумець следчаму, што спектакль, да таго ж на беларускай мове, якая была пад забаронай, можа ўсім ім прынесці сур'ёзныя прыкрасці. Лявіцкаму нагадалі пра маскоўскі бунт, і ён мусіў спыніць рэпетыцыі, развітацца з спектаклем.

## ПРАЕКТЫ З ПРАЖЭКТАМІ

Падчас сваіх клопатаў з п'есай "Злодзей" Антось Лявіцкі працаваў у радашкавіцкай аптэцы, Радашкавічы, радашкавіцкую аптэку Лявіцкі абраў, вядома ж, невыпадкова. Яму трэба было быць бліжэй да Карпілаўкі. А Карпілаўка пасля пажару вымагала клопату і клопату. Гэтак ён доўга разрываўся між Карпілаўкай і Радашкавічамі. Працаваў у аптэцы і будаваўся. Тая, невялічкая, на два канцы хата не вельмі цешыла Лявіцкага. Ён збіраўся завесці сям'ю, але не павязеш жа сваю нарачоную ў тую хаціну-часоўку, і Лявіцкі, з жылаў рвучыся, будаваўся, рупіўся. Неўзабаве вялікі, прасторны, на шэсць пакояў дамок быў збудаваны. Можна было і шлюб браць. У яго на прыкмеце была вельмі пекная радашкавіцкая шляхцянка Луцыя Гнатоўская. Яе і абраў Антось Лявіцкі. Шлюб з ёй ён узяў у 1895 годзе. Луцыя была сірата, гараваная, але вельмі працавітая, пакорлівая, руплівая, як пчолка. З ёй Антось Лявіцкі і прыехаў у Карпілаўку ў навюсенькі, толькі што збудаваны дом. Нейкі час пасля шлюбу яны яшчэ жылі ў Радашкавічах. Тут у іх у 1895 годзе нарадзілася першанькая жаданачка. Назвалі яе Вандай. Але здароўе Лявіцкага горшала, і ён мусіў пакінуць аптэку. Нейкі час яшчэ папрацаваў у каператыўнай краме, але неўзабаве мусіў кінуць і яе. Пераязджае на сталае жыхарства ў Карпілаўку. Было гэта ў 1897 годзе. У гэтую пару гаспадарка цалкам апанавала Антосеву душу. Ён садзіць вялікі для той пары сад, прывозіць адкульсь экзатычныя дрэвы — срабрыстыя таполі, лістоўніцы, атуляе імі сваё жытло, надае яму рамантычны абрыс. Збудаваў паблізу крынічкі пад дубам альтанку. Аж да 1903 года бязвыезна жыве ў Карпілаўцы. Гэта былі ці не самыя асełыя ў ягоным жыцці гады. Усё ў яго ладзілася, усё было ў радасць. Працуе ў садзе. Папраўляе сваё здароўе. І, вядома ж, гадуе і песціць сваю крывіначку — Ванду. Яму вельмі хацелася, каб яна была чуйная да жыцця, як і ён сам. Але такое дбанне пра сям'ю і гаспадарку было ў Лявіцкага нядоўгае. Яго ўвесь час кудысь цягнула, клікала. Найбольш яго турбавала, трэба шчыра сказаць, грамадскае і духоўнае жыццё краю. Пра гэта ён не забываўся ні на хвіліну. Ён шукае сабе аднадумцаў. У 1903 годзе, улетку, едзе ў Вільню, нейкі час працуе там у "Виленском вестнику". Менавіта тут нарадзіўся ягоны псеўданім — Ядвігін Ш. Неўзабаве вяртаецца ў Карпілаўку.

У Мінску ў гэты час пачынаюць выходзіць прагрэсіўныя расійскамоўныя газеты. Сярод іх — "Белорусский вестник". Лявіцкі пасылае ў гэтую газету колькі сваіх абразкоў. Рэдакцыю яны зацікавілі.

Карпілаўка з мясціны чыста гаспадарчай спакваля становіцца духоўным агніскам. Тут збіраецца неблагая бібліятэка з польскіх, французскіх кніг. Трывала ўсталёўваюцца побач з імі і беларускія, а таксама пра Беларусь. У маладога гаспадара складваецца зусім іншы, адметны ад афіцыйнага, погляд на край, у якім ён жыве: "Ніякі гэта вам, панове, не "Северо-Западный край", а Беларусь"— да такой высновы прыходзіць Лявіцкі. Ён працягвае шукаць сабе аднадумцаў і на гэты раз знаходзіць іх у мінскім рускамоўным друку. Тут яму ўдаецца ў 1904-1905 гадах надрукаваць шэраг артыкулаў на расійскай мове. Сярод іх: "Люди — людьми забытые", "К борьбе с холерою", якія цалкам прасякнуты роздумам пра Беларусь, беларусаў, іхнюю долю. Ні на хвілінку не пакідае Ядвігіна Ш. у тую, яшчэ данашаніўскую пару і роздум пра нашу мову. Ён звяртаецца да ўсіх прагрэсіўных людзей, расказвае ім пра духоўныя патрэбы беларускага народу: "Дивные настали времена,— пісаў Ядвігін Ш., — со всех сторон шлют проекты, адреса, петиции... все о чем-то просят, чего-то домогаются... растут, как грибы, всевозможные "комиссии наблюдения над комиссиями построения"... все как бы разом очнулись от долгого тяжелого сна.

Все ли?

Нет, не все: спит — почти как раньше спал — наш крестьянин-белорус.

Быть может, и будить его не стоит? А то, пожалуй, он тоже станет чего-нибудь домогаться...

Спит белорус... но сон его тревожен".

"Для крестьянина-белоруса, — сцвярджаў Лявіцкі,— необходимо создать чтение, доступное по форме изложения и на понятном ему наречии... Иначе мы друг друга не скоро поймем."

Лявіцкі прапанаваў неадкладна распачаць якое-небудзь выданне на беларускай мове. "Без больших затрат и особенного риска,— пераконваў ён афіцыйнае грамадства,— достаточно одному из органов печати нашего края дать еженедельное приложение на белорусском языке с соответствующим содержанием, чтобы убедиться в пользе таких изданий".

Вось з такімі і іншымі думкамі і развагамі жыў Антон Лявіцкі ў сваёй роднай Карпілаўцы. Думкі гэтыя яго з сакавіка 1905 года, на хвалі першай рускай рэвалюцыі, першых яе дзён.

Ядвігіну Ш. часам удавалася ў рускамоўныя публікацыі ўкрапіць з добрай згоды рэдактараў, выдаўцоў і нават цэнзараў колькі радкоў па-беларуску. Як жа з гэтага цешыўся пісьменнік! "Следует отметить,— зазначаў ён у артыкуле "К борьбе с холерою",— что

номера "Белорусского Вестника" всё более и более распространяются по деревням и изредка попадающиеся вставки на белорусском наречии производят там чуть ли не сенсацию. Такие номера перехватываются из рук в руки, и крестьяне заучивают вставки наизусть. Полагаю поэтому, что и вышеприведенная вставка может принести известную долю пользы. Несомненно, что польза была б существеннее,— разважаў далей шчыра пісьменнік,— если бы наряду с брошюрами на русском, польском и еврейском языках были бы в той или другой редакции напечатаны и на белорусском. Такие листки следовало бы разлепить по волостям, деревням и хуторам".

Так Ядвігін Ш. і яго аднадумцы рыхлілі глебу для стварэння беларускага друку. Карысталіся любой нагодаю, каб толькі пераканаць грамадскасць, што Беларусь хоча мець друк на сваёй роднай мове, мае ў ім патрэбу, як і ў хлебе, як і ў паветры.

## ЯБЛЫК АД ЯБЛЫНІ...

Сям'я Антона Лявіцкага была немалая — дачка, трое сыноў, сам з жонкаю. Пісьменнік гадаваў дзяцей і ўсё думаў, што з іх будзе. Але думай колькі хочаш — а калі няма сродкаў, хоць лопні ад думак, а клопату не зрушыш. А сродкаў вучыць у яго якраз і не было. Ён меў адно багацце — чуйную душу. Няблага хадзіла ў яго і пісьменніцкае пяро. Але з адным гэтым свет не збудуеш. Не маючы сродкаў на адукацыю, яны самі пачалі займацца з дзецьмі: вучылі грамаце, чыталі ім кнігі, распавядалі пра далёкі і блізкі свет. Антосю Лявіцкаму дужа хацелася, каб хтосьці з дзяцей пайшоў яго шляхам і нават побач з ім. Яно, вядома, добра было б, каб уся сям'я падтрымала яго, падхапіла ягоныя трывогі. Але не заўсёды так бывае, як хочаш. Не кожнаму падатлівы той клопат, якім ахвяруецца ён. Яму аднойчы падалося, што найбольш цікавіцца яго клопатамі старэйшанькая — Ванда, і ён скіраваў на яе ўсё сваё сэрца. Найперш расказаў — і не адзін раз — пра той край, дзе яны жывуць, чаму ён, каталік і патомны шляхціч, ведаючы не адну мову, абраў для сябе беларускую. Дый шмат чаго іншага такога, чаго нідзе не пачуеш... Часта чытаў ёй свае жартаўлівыя, вясёлыя імпрэсіі, апавяданні, толькі што ім напісаныя. Чытаў і бачыў — дзяўчынцы ўсё гэта вельмі падабаецца. Ён не прамінуў нагоды паказаць ёй і першыя беларускія газеты — "Нашу Долю" і "Нашу Ніву". А неўзабаве дзяўчынка і сама пачала чакаць згаданых газет. Ёй было цікава, што і яе тата тут друкуецца. Цікава было і што іншыя пішуць...

Аднаго разу тата ёй прапанаваў: "А што, Вандзя, а каб ты сама паспрабавала што-кольвек напісаць?"

"Па-беларуску?"— здзівілася дзяўчынка.

"Так, па-беларуску",— пацвердзіў сваю прапанову Лявіцкі.

"А ці змагу?"— засумнявалася дзяўчынка.

"А ты паспрабуй... А я памагу... Пад нерухомы камень вада не цячэ."

Пасля гэтай размовы Ванда доўга ламала галаву, што б ёй такое напісаць. І раптам ёй успомнілася, як аднойчы тут, у наваколлі Карпілаўкі, расказвалі пра аднаго трохі дзіўнага чалавека. Мо пра яго? Але ж не такі ён ужо і дзіўнаваты гэты чалавек. От слухайце: "Даўно гэта было, як у нашу вёску прыцягнуўся нейкі чалавек-жабрак. Адзежына на ім была дрэнная, ногі босыя, да крыві пасціраны; з твары яму глядзела неяк дрэнна... Ніхто з нашай вёскі яго не знаў; іншыя ўжэ дапытваліся: "Што за чалавек? Адкуль?"— "І свой, і не свой; і тутэйшы, і здалёку",— бывала адкажэ... Што гэта значыла,— ніхто не ведаў: адзін казаў — "дурны нейкі", другі кажэ, што можэ ўдае дурнога, чы жабрак, а можэ які злодзей? Усім ужо намазоліў ён вочы, і людзі хацелі пазбавіцца няпэўнага чалавека.

Вось, калі сабралася болей народу і сталі чапіцца да яго,— "Слухайце ж — кажэ — калі воля, можа мая споведзь каму і прыдасца.

Радзіўся я ў вёсцы не багатай, але і нябеднай; бацька мой быў добрым гаспадаром, матка — на ўсю ваколіцу знанай бабулькай. Мелі паўвалочэ і рублёў трыста грошы на людзях і ў запасе. А ўсё гэта яны збіралі дзеля мяне, бо адзін я ў іх быў; ужо і жаніўся я, і дачушку з валаскамі, як лянок, з вочкамі, як вугалькі, меў... Але што! Лепш і не ўспамінаць!

Выязджала шмат людзей у чужую старонку — далёка — за морэ,— паехаў і я. Кінуў старога бацьку, старую матку, жонку, дзіця,— зямлі адрокся, а так паехаў. Гадоў з восем прабадзяўся па чужых кутках, крыху нават грошы сабраў і ехаў ужо рад і шчасьлівы дадому. Але зрабілася няшчасце: грошы ў дарозе ўкралі і, як відзіце, усё маё багацце, што на плячах... Але ж гэта не канец: іду на сваю бацькаўшчыну, ажно там нейкі незнаёмы чалавек з майго даўнейшага гнязда сабаку нацкаваў! Матка, бацька і дачушка ўжо даўно пад крыжамі ляжаць, а жонка дзе — ніхто не ведае, а можа казаць не хочуць!..

Вось і ўсё маё заморскае шчасьце..."

Дзяўчынка ўсё гэта напісала на паперы і паказала тату. Тата засяроджана чытаў, зрэдку глытаючы сліну. А калі прачытаў, усцешана абняў дзяўчынку і сказаў:

— Вось гэтае тое, што і трэба заўсёды чалавеку ведаць. Давай назавём гэта "Бацькаўшчына" і пашлём у "Нашу Ніву".

Праз нейкі час першы Вандзін твор быў надрукаваны ў "Нашай Ніве". Здарылася гэта 21 мая 1909 года. Вандзе не было яшчэ чатырнаццаці гадоў. Надрукаваўшы Вандзін абразок, "Наша Ніва" 4(17) чэрвеня пісала: "Карпілаўка. Самай маладзейшай супрацоўніцы нашай, Вандзе Л. Дзякуем і чакаем яшчэ!".

Гэта вельмі ўсцешыла Ванду, і яна пачала шчыраваць поруч з сваім татам і ва ўсім ішла за ім і з ім. Юная аўтарка неўзабаве абрала сабе і досыць адмысловы псеўданім. Назвала сябе яна Вясёлкай. Пасля будуць яшчэ і іншыя псеўданімы. Сярод іх і Ванда Ле-вая.

## НОВЫЯ СУСЕДЗІ

З 1909 года суседзямі Лявіцкіх становяцца — хто вы падумалі? — Луцэвічы. Яны бяруць у арэнду недалёка ад Карпілаўкі фальварак Акопы. Выпадкова гэта адбылося ці сама так гісторыя захацела, наканавала, але такога на Беларусі яшчэ ніколі не было, каб побач пасяліліся два дзеячы беларускай культуры, два пісьменнікі, два таленты, два самабытныя майстры слова. Гэтае іхняе суседства мела свой плён.

... З Лявіцкім Янка Купала пазнаёміўся яшчэ да пераезду Луцэвічаў у Акопы. Здарылася гэта, паводле слоў самога Купалы, у 1904-1906 гадах. Купалаў біёграф Уладзімір Юрэвіч удакладняе, што гэта адбылося вясной 1904 года. У Радашкавічах ладзіўся кірмаш. На яго паехаў і Янка Купала.

Гэтае знаёмства зрабіла на Купалу вялікае ўражанне. Ядвігін Ш. ужо тады быў слынным беларускім пісьменнікам, меў друкаваныя творы, хай сабе і перакладныя, вучыўся ў Маскве, за свае беларускія перакананні сядзеў у Бутырскім астрозе, цікавы апавядальнік, умеў даходліва расказваць пра таямніцы пісьменніцкага рамяства. Таму нядзіва, што стаўшы суседам Лявіцкага, Купалу цягнула ў Карпілаўку да Лявіцкага. Быў ён тут не адзін раз. Прыходзіў найперш браць кнігі. У Лявіцкага Купала ўпершыню ўбачыў цэлую бібліятэку з беларускіх кніг. Сярод іх кніжкі Дуніна-Марцінкевіча і Францішка Багушэвіча, якія перавярнулі ўсю Купалаву душу, і ён цалкам пачынае пісаць па-беларуску, дагэтуль жа пісаў па-польску.

Янка Купала, вядома, быў задаволены новым суседствам.Часта прыходзіў да Лявіцкага ў Карпілаўку з сваімі творамі. Прыкладам, на самым пачатку лета 1912 года чытаў у Карпілаўцы Лявіцкаму толькі што напісаную "Паўлінку". Пра гэтую падзею Янка Купала пісаў пятага чэрвеня з Акопаў у Пецярбург Браніславу Эпімаху-Шыпілу: "Напісаў у двух актах камедыю, каторую чытаў пану Лявіцкаму, і ён казаў, што напісана дарэчы. Камедыя называецца "Паўлінка", напісана прозай, з шляхоцкага жыцця. Калі мне ўдасца перапісаць на машынцы ў колькіх экземплярах, то дарагому п. прафесару прышлю адзін экземпляр для прагляду".

Няцяжка ўявіць гэтае чытанне. Пачатак чэрвеня 1912 года. У Карпілаўцы ўсё буяе, у квецені. Паветра чыстае, напоўненае водарам лесу, лугоў. Суцішна. Ядвігін Ш. і Янка Купала сядзяць у альтанцы пад дубам. Побач гутарлівая рачулка. Тут прахалодна. Побач струменіць крынічка. Тут спрыяльна чалавеку. Суцішнасць парушае хіба лёгкі пошум лістоты. Але ён рытмічны, як лёгкая музыка. Да таго ж мо трохі і аднастайны. То і не вельмі заўважаўся. Купала пачаў чытаць з рукапіснага ліста: "Паўлінка". Сцэны з шляхоцкага жыцця ў 2-х актах.

...Лявіцкі ўслухоўваецца ў дыялогі. А яны зграбныя, напеўныя, дасціпныя. Гучаць знаёмыя назвы — Міхалішкі, Прытыкі... Дый Лявіцкі і дзейных асоб пазнае. Сцяпан Крыніцкі з яго "каханенькая-родненькая" — ці не з Гіляра Аблачымскага? Вельмі лёгка пазнаецца і Пранцісь Пустарэвіч з яго "вось-цо-да..."

Пасля чытання Янка Купала і Лявіцкі доўга ходзяць пад шатамі ліпавых прысадаў, яшчэ і яшчэ гавораць пра п'есу. Ядвігін Ш. кажа: "Добра было б, каб гэтую рэч узяўся хто паставіць на вялікай сцэне". Купала згодна ківае галавой: "Вось вярнуся ў Пецярбург, напаткаюся з сваім апекуном і можа што-кольвек прыдумаем". Ён задаволены вяртаецца ў Акопы: масціты і даволі патрабавальны пісьменнік прызнаў яго драматургічны твор станоўча. Здаецца, прызнанне гэтае шчырае. Не такое, якое яно было ў 1908 годзе, калі выйшла яго першая кніжачка "Жалейка". На гэтую кніжачку Лявіцкі адгукнуўся рэцэнзіяй ў менскай рускамоўнай газеце "Минское эхо". Але як гэта ўсё падавалася! "Лучше быть первым в деревне, чем вторым в Риме",— так пачынаў свой водгук Лявіцкі. Такі быў першы сказ ягонай рэцэнзіі на "Жалейку". І далей усё ў такім тоне. Пры нагодзе Янка Купала пацікавіўся, як разумець такі яго водгук. Чытанне "Паўлінкі" ў Карпілаўцы сведчыла, што майстры слова, як і належыць інтэлектуалам, паразумеліся, памеркаваліся. Купалава "Паўлінка" гэтак легла на сэрца Лявіцкаму, што ён падахвоціўся сыграць у ёй

пэўную ролю. І такую мажлівасць ён атрымаў. З вялікім задавальненнем сыграў Крыніцкага. Надта яму падабалася постаць гэтага пакладзістага, памяркоўна разважнага, а разам з тым пры патрэбе і настойлівага шляхціча. "Каханенькая-родненькая, як скажу — так і будзе!"— з нейкім асаблівым смакам прамаўляў гэтую гулліва ласкавую з суровінкай прыпавець. Спектакль той ставіўся ў Вільні, на ім быў і Купала. Лявіцкі ведаў, што абразок для Паўлінкі быў узяты з жыцця тутэйшых мясцін, дзе Акопы, Карпілаўка, Харужанцы. Мо таму гэтым была і дарагая "Паўлінка" Лявіцкаму. Папраўдзе, ён зайздросціў творчаму ўзлёту Купалы. Здаецца, толькі-толькі ён знаёміў Купалу з сакрэтамі літаратурнай творчасці, з яе азамі, а ўжо пра яго ўсюды і скрозь загаварылі. Ці тая "Паўлінка"... Усё, пра што напісана ў ёй, вядома было і Лявіцкаму. Але вось не сабраўся, не прыкмеціў, не звёў бытавую з'яву ў мастацкую. Лявіцкі любіў тэатр. Абодва яны — і Лявіцкі, і Янка Купала — гарнуліся душою да ўсіх праяў тэатральнага руху на Беларусі. Разам з іншымі нацыянальнымі руплівцамі яны не давалі драмаць тутэйшаму краю, асвячалі яго кнігай і тэатрам, свядомай беларушчынай.

## З БОГАМ НА СВАЁЙ МОВЕ

Паблізу Карпілаўкі не было касцёлу. Ды фальваркоўцы з гэтага не вельмі бедавалі. На кожны дзень яны мелі дома ўсё, каб памаліцца Богу: абразы, малітоўнікі, свечкі, ружанцы. А па нядзельках і на вялікія святы хадзілі ці ездзілі да касцёлу ў Радашкавічы. Радашкавічы ад Карпілаўкі кіламетраў за дваццаць. Набажэнства ў касцёле, як гэта здаўна павялося, ладзіліся па-польску ды на латыні. Але вось аднаго разу да Карпілаўкі дайшла чутка, што ў Радашкавічы прыехаў новы святар Ян Вольскі і збіраецца першае сваё набажэнства зладзіць па-беларуску. Гэтая навіна ўзрушыла Ванду і Антона Лявіцкага. Ванда проста не магла дачакацца таго светлага дня. На досвітку падхапілася і пешкі паляцела ў мястэчка. Калі прыйшла ў святыню, там ужо было людна. Вернікі ціха перашэптваліся, чакалі новага святара. Нарэшце, ён выйшаў з захрысця: малады, круглатвары, адухоўлены. Вернікі прыціхлі.

— Пахвалёны Езус Хрыстус! — сказаў ён, — Спачатку было Слова! Само Слова — Бог! Усё пачалося з Слова! Шмат на свеце моваў. І з кожнай мовай можна гаварыць з Уладаром Сусвету! Наша мова таксама ад Бога, Богам нам дадзена. Ад сёння мы з вамі будзем прамаўляць да Бога на нашай роднай мове... Прымі, Божа, нашу малітву ў нашай мове...

Вандзе роднае слова, пачутае ў святыні, было бальзамам. Яна была гатовая слухаць святара Вольскага да змогі. Але вось набажэнства скончылася, і ксёндз пачаў надзяляць вернікаў абразкамі. Зірнула Ванда на абразок, а на ім словы з малітвы па-беларуску: "Маліцеся, Браццяя, каб мая і ваша афяра была прынятай у Бога Айца Усемагутнага".

Гэта яшчэ больш акрыліла Ванду. У Карпілаўку вярталася шчаслівая. Стомы ад дарогі не адчувала. Усё прасіла Бога, каб гэтак было ў касцёле і заўтра, і паслязаўтра, і заўсёды. Пасля пра гэтую падзею напісала і "Наша Ніва". Было гэта летам 1910 года.

## КАНОПЛІ

Ядвігін Ш. мала бываў дома: усё ў дарозе і ў дарозе, усё ў адлучцы ды адлучцы. Але тыя дні, тыдні, месяцы, калі ён жыў з сям'ёй, былі для дзяцей незабыўныя. Ён, як і колішні яго настаўнік Дунін-Марцінкевіч, умеў заахвоціць дзяцей і да працы, і да навукі. Да чаго ж, скажам, сумная і аднастайная праца рваць каноплі. Але толькі не для Ядвігіна Ш. Бывала, збярэ дзяцей, падвядзе да загона і кажа:

— Ну што, небажаты? Бачыце каноплі? А хочаце пазабаўляцца з імі?

Адно толькі слова, а колькі ў ім інтрыгі! Каму ж гэта не хочацца пагуляцца, ды яшчэ з канаплямі. Толькі, як гэта з канаплямі гуляць, гуляцца?

А Ядвігін Ш. тым часам тлумачыць далей:

— От я з Вандаю адсюль займу і паганю пасачку, а ты, Лявоне, з Казікам і Вацікам — з другога і вунь у тым месцейку сыдземся. Ну дык што — пачалі?

І закіпела работа, толькі дзіцячыя галоўкі матляюцца. Прарвалі тыя пасачкі, у прызначаным месцейку сышліся, стрэліся. А Ядвігін Ш. далей свой рэй вядзе:

— Ну то што, небажаты, у нас выйшла? Паглядзіце...

Дзеці азіраюцца на працярэбленыя імі палоскі — і бачаць: якаясь фігура атрымалася — ні то клін, ні то трохкутнік. А Лявіцкі ўжо зноў падахвочвае: — А зараз станем вось гэтак... Кожны з нас будзе гнаць сваю палоску адзін аднаму насустрач. Паглядзім, што ў нас на гэты раз выйдзе...

І зноў сямейка дружна завіхаецца, каноплі цярэбіць, толькі чупрыны мільгаюць. Рвалі, рвалі, сышліся — азірнуліся. На гэты раз у іх атрымаўся канапляны квадрат. Зрабілі яшчэ заход — новая фігура...

Усім весела, цікава і няцяжка. І праца ідзе, а з ёй і вучоба. Гэтак жа весела і яблыкі з дрэў абіралі, і бульбу капалі. Умеў Ядвігін Ш. рабіць з прозы жыцця паэзію, умеў абудзіць у дзяцей да ўсяго цікавасць.

## КАЛЯДНЫМІ ВЕЧАРАМІ

Усё ў Карпілаўцы было добра, ладна, але моцна, хай іх халерачка, даймалі зімою калядныя маразы. Хоць і палілі няблага, і дроў ставала, жылі ж у лесе, сярод лесу, але ў карпілаўскім доме зімою было чамусь заўсёды нягорача. То прасілі і малілі Бога, каб маразы тыя хоць трохі адхлынулі. А як прасілі? Сядзелі і згадвалі лысых. А згадаць іх трэба было кожнаму не менш, як дванаццаць. Нібыта, як згадаеш гэтых лысых дванаццаць, то і мароз тады хоць трохі адваліць, настане адліга. Вось сядзяць Лявіцкія, і кожны з іх называе сваіх лысых. Ды не проста называе, а з прыпавесцю: "Дзядзька Кастусь лысы — трэсні мароз на яго лысіну! Дзядуля Карусь лысы — трэсні мароз на яго лысіну! Дзед Нупрэй лысы — трэсні на яго лысіну мароз!" Здаецца, не такая ўжо мудрагелістая гэтая забаўка, але набраць дванаццаць лысых не так і лёгка. Трэба было называць не абы-каго, а знаёмых лысых. А не кожнаму гэта давалася. А маразы тады былі ўга якія! Не толькі лысых, а каго хочаш згадаеш!

У гэтую гульню з лысымі, згадвала Ванда, гуляў з дзецьмі і сам Ядвігін Ш.

## РАВЭРКАВЫ ГОСЦЬ

Аднаго разу ганак дома Лявіцкіх абудзіўся гулкім тупатам ног: ні то іх выціраў хто старанна, ні то абіваў. Па тупату ног адчувалася, што постаць мажная, грузная. Лявіцкі адчыніў дзверы. Ля тэрасы-веранды пры самым ганку стаяў прытулены кіроўніцай ровар. На яго добрымі, мо нават шчаслівымі вачыма глядзеў Уласаў, сам рэдактар "Нашай Нівы".

— Го-го-го, гаспадар!— бадзёра выгукаў ён.— Сустракай госця!.

Лявіцкі спаважна прапусціў равэркавага пілігрыма з Мігаўкі ў дзверы і зайшоў з ім у гасцёўню. Ён быў рады госцю: ведаў, што Уласаў так сабе не завітаў, мае якісь пільны клопат. Дык жа і не памыліўся: навіна і напраўду была нечаканая.

— Пане Лявіцкі,— счакаўшы якую хвіліну, сказаў Уласаў. — А ці не час, ці не пара нам Менск-губернскі перакідаць у Менск-беларускі? Сказаў і пільна паглядзеў на Лявіцкага: хацеў адно толькі па вачах

убачыць, як такая навіна адгукнецца ў душы Лявіцкага, як яна яго ўразіць. Але той быў задуменна спакойны і ўсім сваім выразам казаў, што гатовы слухаць госця і далей. Адно толькі кінуў:

— А з Вільняй што?

— А ў Вільні пакінем Купалу... А самі возьмемся за Менск.

Уласаў расказаў пра свае планы. У Менску ён засноўвае дзве рэдакцыі, два часопісы: адзін для гаспадароў — "Саху", другі для дзяцей — "Лучынку". Ужо і кватэру пад рэдакцыю прыкінуў. Гэта будзе кватэрка ў драўляным дамку на два паверхі насупраць Сеннага рынку на Траецкай Гары. Гэта якраз той дамок, у якім нарадзіўся Максім Багдановіч. Так што на святое месца ідзем. А побач — духоўная семінарыя. А яшчэ паведаміў, што марыць беларускую кнігарню ў Менску адчыніць. То вось патрэбны памочнікі. Ці не ўзяў бы пан Лявіцкі пад сваю апеку і згаданыя часопісы, і кнігарню... Ці не падсобіць наладзіць яму гэтую працу?

— Цяжкавата мне гэта будзе аднаму...

— Чаму аднаму? Мы табе памочнікаў надашлём... Прыкладам, Пашкевічанку. Ёй вельмі хочацца выдаваць часопіс для дзяцей. А ты "Сахой" зоймешся,— гуў далей Уласаў, нібы казку расказваў.

— А ў кнігарню каго мяркуеце?— пацікавіўся Лявіцкі.

— А ў кнігарню,— Уласаў хітравата зірнуў на Лявіцкага... — А ў кнігарню,— паўтарыў ён адно і тое ж слова, — мяркуем паставіць... тваю Ванду.

Сказаў — і зноў зірнуў на Лявіцкага: цікава, што ён скажа на гэта?

— Яна ж яшчэ зусім маладая. Ёй жа ўсяго толькі шаснаццаць...

— Гэта пакуль шаснаццаць. А праз гады два будзе восемнаццаць. А нашы дзяўчаты рана сталеюць. А пакуль сам будзеш і ў часопісе, і ў кнігарні. А Ванда будзе падмагаць. Яна ў цябе дзяўчына руплівая, рупная. Ёй наш клопат, бачу, блізкі... Гукні-ка яе сюды!

Лявіцкі нягучна, праз увесь пакой пагукаў:

— Вандзя! Хадзі сюды...

Ванда, відаць, была дзесь блізка, бо на голас адгукнулася хутка. Зайшла, спынілася ў дзвярах. Рэдактара "Нашай Нівы" яна ведала. Ён не адзін раз быў у Карпілаўцы і раней. Яны даўнія сябры з яе татам, то і размова пачалася адразу. Лявіцкі паведаміў пра ўсе задумы Ўласава, і гэтымі навінамі ўсе былі ўсцешаныя. Вунь колькі ў гэтай навіне навін! І Менск хутка стане беларускім, і Вандзе праца, дый яшчэ якая, знаходзіцца! І Карпілаўка ад Мінска недалёка. Так што ўсім будзе добра: і Беларусі, і Карпілаўцы, і Лявіцкім.

На гэтым і рассталіся. Уласаў усеўся на свой неразлучны равэрак і пакаціў у Мігаўку. А мо і не ў Мігаўку. Па дарозе было шмат

фальваркаў і маёнткаў, дзе яго ведалі, чакалі, дзе можна і трэба было вырашаць такія ж беларускія клопаты, якія ён развязаў у Карпілаўцы. А Карпілаўка яму, гэтак жа, як і сам яе гаспадар, дужа падабалася. Ён не адзін раз казаў, што тут ён сябе заўсёды пачувае як дома.

## ДЗЕЦІ, КУДЫ ВАС ПАДЗЕЦІ?

Вясной 1914 года Ядвігін Ш., пасля чарговай перамовы з Аляксандрам Уласавым, пераехаў з Карпілаўкі на сталае жыхарства ў Мінск. Тут у яго было шмат розных клопатаў, не менш, як у Вільні. Разам з Уласавым засноўвае першую ў Мінску беларускую кнігарню, працуе ў рэдакцыі "Лучынкі" і "Сахі". А калі пачалася першая сусветная вайна і дакацілася да Мінска, ён, разам з іншымі, апякуецца бежанцамі, ці, як тады казалі, уцекачамі. Жыве ў Мінску сціпла, непераборліва. Сваёй кватэры ён тут не меў. Начуе дзе давядзецца: у кнігарні, пры рэдакцыі. Да ежы непатрабавальны. Побыт яго просты: якая-небудзь зашмальцаваная канапка. Імбрычык, шклянка. Драўляная лыжка. Усюды з ім была і ягоная дачка Ванда. Часам з Вандаю сёрбалі крупнік з аднае міскі. На свой лёс не наракаў. Адно яму рупіла, каб хутчэй скончылася вайна, гэтая калатнеча ды ўсталяваўся на зямлі лад, каб край родны ачуняў, акрыяў духам.

Жывучы ў Мінску, з Карпілаўкай, вядома, повязі не парываў. Там бралі харчы, коратка адпачывалі, тое-сёе дапамагалі і гаспадарыць. Але пераважна жылі ў горадзе. Гэтага вымагала ад іх іхняя праца. Але Карпілаўка ўвесь час была пад увагай. Там жыла жонка з трыма сынамі. Антон Лявіцкі часам адчуваў прыкрасць і віну, што мала займаецца сям'ёй, гаспадаркай, дзецьмі. Кінуў, рынуў усё на волю лёсу... Турбуецца пра іншых, а не пра сваіх. Але ж, але ж... Свае і прытулак маюць, з'есці што-кольвек ёсць, пры гаспадарцы жывуць. А ў гэтых гаротнікаў ні кала ні двара.

У тую пару ў Мінску быў беларускі дзіцячы прытулак. Ім апекавалася грамадка беларускай творчай моладзі. Было якраз лета. Дзяцей трэба было куды-небудзь прыладзіць на лета, паправіць іхняе здароўе. Але куды? Хто іх чакае? Каму яны патрэбныя? Скрозь нястача. Згадалі, што ў Лявіцкага недалёка сядзіба. Можа б ён згадзіўся? Наважыліся спытацца. Цікава, што скажа. Гэта ж не адно і не два дзіцяці, а цэлая паўсотня. Спыталіся. Ніякіх ваганняў:

— Вязіце! Мае пераб'юцца ў адным пакойчыку. А астатнія хай займаюць дзеці! — такая была воля гаспадара Карпілаўкі.

І вось у самай сярэдзіне лета цэлы абоз з дзецьмі ўзяў накірунак з Мінска на Карпілаўку Лявіцкага. З дзецьмі паехала і Ванда. У сваім доме, у знаёмых ваколіцах, яна, як ніхто іншы, лёгка давала рады ва ўсім: харчах, занятку, адпачынку. Сям'я Лявіцкага моцна пацяснілася, аддала дзецям амаль усе пакоі, пакінула сабе толькі адзін. Дзеці ў Карпілаўцы не толькі адпачывалі, але і пасільна працавалі: касілі, палолі, грабілі сена, сушылі, зараблялі сабе на хлеб. Пра жыццё дзяцей у Карпілаўцы захаваўся Вандзін ліст да Зоські Верас, пасланы ёй з Карпілаўкі. У тым лісце Ванда пісала: "Дарагая Людачка! Пішу табе карыстаючы з пошты. Рабіце якую кольвечы раду з грашыма, бо я ўжо баюся пазычаць. Хутка нам тут не дадуць, бо людзі пачынаюць баяцца ці аддамо — кругом напазычана і набрана. Хоць бы рублёў дзвесце на першы пачатак, успакоіць больш баязлівых, тады можна было сядзець, паправіўшы марку. Пішу ўсё гэта і так мне цяжка, што горш як якую цяжкую работу рабіць. Рабіце што-небудзь..."

Усё ж, нягледзячы на розныя цяжкія варункі, дзеці за лета ў Карпілаўцы няблага адпачылі, папраўілі здароўе. Гэтаму паспрыяла і чыстае карпілаўскае паветра, і карпілаўскі лес, багаты на ягады і грыбы. І клопат пра дзяцей іхніх выхаваўцаў. Разам з Вандаю пра дзяцей у Карпілаўцы апекавалася і Ядзя Радкевіч. Яны, як маглі, дбалі пра гэтых гарэтнікаў. А былі там дзеці розныя — ад трох-чатырохгадовых да трынаццаці-чатырнаццацігадовых. Кожны меў свае балячкі, свае крыўды, трывогі, свае маленькія праблемы. Кожнага трэба было выслухаць, улагодзіць, прылашчыць, іншых пamірыць, суцешыць. Уся праца з гэтымі дзецьмі ладзілася па-беларуску. Роднаму слову вучылі праз працу, праз гульні, забавы. Карпілаўскім выхаваўцам праз гэтых дзяцей бачылася будучыня Беларусі, і яны не шкадавалі ні сілы, ні здароўя.

## КУЧАРАВАЕ ДРЭВА

Чым большую вядомасць Ядвігін Ш. набываў як пісьменнік і грамадскі дзеяч, тым большы розгалас меў і ягоны фальварак. Асаблівую вядомасць ён набыў у 1916 годзе, пасля таго, як тут знайшлі прытулак дзеці-сіроты, дзеці бежанцаў. З тае пары шмат хто з дзеячаў беларускай культуры, літаратуры наведаў сядзібу Ядвігіна Ш. Адным з першых карпілаўскім госцем стаўся Змітрок Бядуля. І яно зразумела. Ядвігін Ш. і Змітрок Бядуля ездзілі да сваіх сялібаў адным і тым жа шляхам — Даўгінаўскім трактам. То як было Антосю Лявіцкаму не запрапанаваць аднойчы завітаць свайму сябру на

гадзіну-другую да яго на сядзібу. На гэта трэба была толькі яго згода, а далей ужо ўсё само сабой рабілася. Да варот з гасцінца направа — і праз які кіламетр ад яго ў лясным вяночку абжыты кут Лявіцкіх. То так аднаго разу яны і зрабілі.

...Лявіцкі з Бядулем сышліся ў Вільні праз рэдакцыю "Нашай Нівы". Ім давялося не толькі разам працаваць — Змітрок Бядуля быў сакратаром, а Ядвігін Ш. загадчыкам літаратурнага аддзела, але і жыць разам, у адным пакоі. Гэта было ў 1913 годзе. З першай стрэчы Змітрок уразіў Ядвігіна Ш. Габрэй, а як ведае беларускую мову! А які імпрэсіяніст, апавядальнік! Паэт у прозе! Рэаліст і містык! Мяккі, чуйны, гарэзны! Умее маляваць і на скрыпачцы іграць. Ягоныя абразкі — гэта штось такое шчымлівае, ім толькі спазнанае, што бярэ за душу і ніколі ўжо не адпускае.

Змітрака Бядулю ягоныя сябры з любасцю называлі Кучаравым Дрэвам. У Бядулі і напраўду была кучаравая галава. Ён і напраўду вельмі розніўся ад усіх сваіх пабратымцаў — беларускіх пісьменнікаў. Паўвясковы, паўгарадскі... Таўстаматыя губы... Пукатыя вочы... Яны ніколі, здавалася, не ведалі ні журбы, ні самоты. Усё ў ім гаманіла, рвалася з душы... От і цяпер — хадзіў і ўсё захапляўся: "Як тут утульна, суцішна і суладна!" Гаспадару было прыемна чуць словы пахвалы, захаплення, і ён да гонару свайго дадаў:

— Так, Змітрок, мне часта зайздросцяць і больш багатыя паны... А ўсяго гэтага сваёй працай дамогся. Ніхто мне тут і рукі не прыклаў... Усё сам, з Лявонам сваім... Бачыш крушні — то я гэтыя валуны з сынам на тачцы цягаў... І дрэвы гэтыя я сам пасадзіў...

— А скуль у цябе, пане Лявіцкі, такое чуццё прыгожага? Хто цябе гэтаму вучыў?

І Лявіцкі мусіў расказаць Змітраку Бядулю пра сваё маленства, што нарадзіўся ён у вельмі гожай і маляўнічай мясціне на Рагачоўшчыне — у маёнтку Добасня... "Ах, Змітрок, што гэта быў за кут! Якія там палацы, якія сады, сажалкі, прысады!.. А колькі там рэдкіх дрэваў! Усё гэта хараство ўва мне з малых гадоў... Затым я гадаваўся ў графскім Рамане ля Пяршаяў. Гэта таксама Богам створаны кут — на краю Налібоцкай Пушчы. Быў там, апроч усяго, і звяроўнік... Усё гэта мне западала ў душу з малых гадоў. Вось таму, калі я стаў ужо сам гаспадарыць, сказаў сам сабе: сваю Карпілаўку, сваё гняздо зраблю больш прывабным... Здабыў лістоўніц, срэбраных таполяў... Бач, яны над домам шумяць... Сад пасадзіў... А была ж дагэтуль мая Карпілаўка невялікім фальваркам на водшыбе ад гасцінца. Калі я браўся парадкаваць свой фальварачак, быў я тады

малады і дужы, і ўсё ў мяне спорылася, і ўсяго хацелася, не тое, што цяпер. Б'ешся як рыба аб лёд, але, як кажуць палякі, скут ніц..."

Змітраку Бядулю не зусім спадабаўся гэты ўпадніцкі настрой гаспадара Карпілаўкі. Ён паспрабаваў яго падбадзёрыць:

— Нечага бедаваць, пане Лявіцкі. Цяпер мы з табой жывём зусім іншым клопатам. Цяпер нам не да сядзібаў, не да гаспадарак... Цяпер у нас клопат падняць усю Беларусь...

Цяжка было не пагадзіцца з Змітраком Бядулем. Так, цяпер гэтым клопатам жыла ўся маладая беларуская творчая інтэлегенцыя. Вось і ён, Змірок Бядуля, не так даўно пісаў: "Хто мае святы агонь у сэрцы сваім, хай не стаіць збоку, а хай бярэцца горача за працу над пазнаннем хараства нашай старонкі, нашага народа. Няхай прытуліцца гарачым сэрцам да зямлі-маткі роднай і вокам загляне глыбока-глыбока ў жыццё: у зямлю аж да дзедаўскіх костачак, у людзей — да бяздоні душ, у край — праз усе яго долі, да першых дзён і спазнае душу сваёй зямлі, душу народа ў найцікавейшых, у характэрных праявах, каторыя выліваюцца ў песнях, казках, звычаях. Трэба ўсе песні, звычаі і ўсё іншае, у чым праяўляецца душа нашага народа, збіраць, запісваць, зарысоўваць, фатаграфаваць, бо ва ўсім гэтым крыецца характэрная,— наша частка, — агульналюдскога хараства. Хараство — гэта маці жыцця, кіраўніцтва дабра і праўды".

Змітрок Бядуля збіраўся пабыць у Карпілаўцы гадзіну-другую, але так атрымалася, што і заначаваў. Лявіцкі вадзіў Змітрака Бядулю па карпілаўскіх ваколіцах, расказваў дзе і хто жыве. Паказваў яму нават Акопы, дзе жыла Купалава маці. Вандруючы па ваколіцах, шмат гаварылі пра літаратуру, пра будучыню. Змітрок Бядуля лічыў, што Ядвігін Ш. — гэта Беларускі Чэхаў.

## ЯН ОФЕНБЕРГ

Блізкім да сям'і Ядвігіна Ш. чалавекам быў і радашкавіцкі доктар Ян Офенберг.

... Ноч ці поўнач, дождж ці мароз — нішто не магло яго спыніць. Ён браў у рукі сваю доктарскую валізку і ехаў ці ішоў туды, дзе патрэбна была дапамога, дзе яго чакалі. Аднаго разу, згадваюць, па яго прыехалі... на карове.

Была восень, сляката, гразь, цемра. Ян Офенберг, ні слова не кажучы, сеў на воз і паціху паехаў на такім экіпажы ў далёкую, за дваццаць з лішнім вёрстаў ад мястэчка вёску. Ягонымі пацыентамі былі багатыя і бедныя, радашкаўскія месцічы і сяляне навакольных

вёсак. Ядвігін Ш., тады яшчэ Антось Лявіцкі, зблізіўся з Янам Офенбергам якраз той парою, калі працаваў у аптэцы. Але гэта было не толькі чыста цэхавае збліжэнне. Ян Офенберг цікавіўся духоўным жыццём народа, сярод якога жыў. Яму быў блізкі і зразумелы побыт беларусаў. Няблага ён ведаў і нашу мову. Так што падстаў для збліжэння Ядвігіна Ш. з Янам Офенбергам было нямала. Гэта быў адзін з тых радашкавіцкіх энтузіястаў, з якімі Ядвігін Ш. яшчэ пры канцы мінулага стагоддзя зрабіў першую спробу паставіць спектакль паводле сваёй п'есы "Злодзей". Слынны лекар, вядома ж, не адзін раз гасцяваў у Карпілаўцы, захапляўся яе харастром. Ён і сам быў здатны скласці які-небудзь вершаваны экспромт, разумеў смак і пах літаратурнага слова. Ванда Лявіцкая згадвала, што калі праз нейкі час слыннага доктара паклікалі з Радашкавічаў на працу ў Мінск, местачкоўцы і ягоныя пацыенты наладзілі развітальную вячэру. На гэтую вячэру прыйшоў і Ядвігін Ш. Сваё развітальнае слова славутаму доктару ён сказаў вершам:

Чую прамовы я прашчальныя
З усіх старок і ўсё ад паноў.
А я ад сэрца пажагнаю —
Ад сэрца бедных мужыкоў.
Прашчай жа! Зычу жыцця 100 гадоў,
Грошы сто мяшкоў.
Пекну жонку і то скора,
Потым дзетачак шасцёра.

Доктар Ян Офенберг на гэтае прывітанне Ядвігіна Ш. таксама адказаў па-беларуску. Вядома, Мінск не быў за якімсь далёкім светам ні ад Радашкавічаў, ні ад Карпілаўкі. Колішні радашкавіцкі доктар, працуючы ў Мінску, не забываўся пра сваіх аднадумцаў, гэтак жа, як і яны пра яго. Мяркуецца, што менавіта Ян Офенберг пазнаёміў Янку Купалу з Лявіцкім. Ядвігін Ш., Ян Офенберг, а таксама Ўладэк Самойла першыя ўпэўнілі Янку Купалу, што толькі ў беларускай роднай стыхіі можа развіцца ягоны талент. Імя слыннага радашкавіцкага лекара Ядвігін Ш. прыгадаў і ў сваіх "Думках кутніка", якія не гэтак даўко абнародаваў Віталь Скалабан.

## АКВАРЭЛЬКА

Кожны госць Лявіцкага пачуваў сябе ў Карпілаўцы па-свойму. Адны прасілі яго паказаць сядзібу, іншым прапаноўваў паглядзець яе сам гаспадар. Адзін толькі Галубок адмовіўся ад усялякай апекі.

— Я, пане Лявіцкі, хацеў бы, калі гэта можна, калі не закрыўдуеце, адзін пахадзіць, патупаць па вашай сядзібе, яе акаліцах. У мяне тут свой інтарэс ёсць...

Лявіцкі ведаў: Галубок трохі малюе, любіць маляваць з натуры — пэўна, і зараз пойдзе шукаць якіхсьці цнатліва прывабных куточкаў, прыродных нерушаў. То хай сабе ідзе...Не трэба замінаць яму. Ён жа дзеля гэтага сюды і прыехаў. Адно толькі засцярог яго:

— Не заблудзіцеся тут у нас, пане! На маёй сядзібе гэтулькі ўсяго прываблівага, прывабнага, што галава можа закружыцца... Дый дарог тут у нас, сцежак розных... Не раўнуючы, як заблытаны маток нітак...

Лявіцкі казаў праўду. У мастака тут вочы разбягаліся. Што ні возьмеш, куды ні глянеш, куды ні зірнеш — усё просіцца на пэндзаль: і гэтыя магутныя дубы-дзядулі, і гутарлівая ручаінка, і сам дамок. Як толькі яшчэ заязджалі на сядзібу, Галубку на вока ўпаў леваруч высокі пакаты пагорак пры браме, абкладзены знізу валунамі, між якімі, нібы гномікі, павытыркаліся маладзюсенькія бухмаценькія ялінкі. Усё гэта было такое рамантычнае, узнёслае, што само прасілася на паперу, і Ўладзіслаў Галубок пашыбаваў, не вагаючыся, доўга не разважаючы, найперш да яго і пачаў маляваць. Маляваў спантанна, штрых за штрыхом наносіў пагорак, яго дэталі. І вось нарэшце накід гатовы. Можна вандраваць далей. Галубок кладзе накід у цубкі абклад і кіруецца да Дуба-Дзядулі ля другога пагорка. Напачатку цешыцца ім, аглядае, а затым бярэцца маляваць волата. "Гаспадар сядзібы, Антон Лявіцкі, апісаў яго ў сваім абразку словам, а я вось зараз яго жыўцом, усяго, як ёсць, на паперу перакіну". І Галубок зноў пачаў шчыраваць. Маляваў і дзівіўся: якое голле! Магутна пакручастае, нібыта хто наўмысна пакруціў, пакуль дуб рос, быў маладзенькі. Круціў кожны дзень, спакваля, круціў яго, як круцяць вяроўкі. Такога голля яму дагэтуль не трапляла страчаць. Хто ж яго так пакруціў? У гэтую хвіліну скульсь дыхнуў на дуб парывісты вецер. Ён зашамацеў пажоўклым лісцём. Зашамацеў неяк трывожна. "Няўжо гэты свавольнік такія штукі павырабляў з голлем? — мільгнула думка. — А пэўна што так... Дуб жа на сямі вятрах, і вятрыскі гуляюцца, як хочуць з ягоным голлем". Галубок гэтак захапіўся маляваннем, што забыўся і пра абед і, мабыць, маляваў бы яшчэ. Але раптам пачуў голас Лявіцкага:

— Пане Уладзіславе, адным маляваннем сыты не будзеш... Пара і падсілкавацца...

Галубок быў засяроджаны і натхнёны. Не адрываючыся ад малюнка, сказаў:

— А праўду кажаце — можна і падмацавацца,— і яны, разглядваючы на хаду накіды, накіраваліся да дамка. Больш уважліва разглядзелі іх у гасцёўні-бавельні. Галубок патлумачыў, што гэта толькі эскізы, што ў Мінску ён іх перамалюе фарбай, зробіць акварэлькі. І слова ён сваё стрымаў, праз нейкі час перамаляваў. Адну карпілаўскую акварэльку ён ахвяраваў сваёй аднадумцы Зосьцы Верас. Тая зберагла яе праз гады. Замалёўка датавана чатырнаццатым лістападам 1916 года. "Але гэтая дата — не ёсць дзень, калі Галубок маляваў, дзень ягонай пабыўкі ў Карпілаўцы,— а крыху пазнейшая. Гэта дзень, калі ён малюнак мне прынёс. А нашкіцаваны ён быў недзе ў пачатку кастрычніка. Было цёпла, дрэвы зялёныя,"— згадвала пазней Зоська Верас.

Галубок быў задаволены, што наведаў Карпілаўку. Ён спазнаў яшчэ адзін вельмі гожы куточак Беларусі, і Ядвігін Ш., і ўся яго сям'я сталі яму бліжэй і больш зразумелыя. Шмат яны гаварылі з Антонам Лявіцкім тады і пра тэатр, прынамсі пра беларускі тэатр, пра яго значнасць у духоўным жыцці. Можа, у часе тае размовы Уладзіслаў Галубок першы раз падумаў: "А мо і мне паспрабаваць напісаць п'есу... Не святыя ж гаршкі лепяць..." Сказаў пра гэта і Лявіцкаму — Ядвігіну Ш. Вядома ж, пачуў ад яго толькі падтрымку, ухвалу. Беларусі трэба былі п'есы, драматургі, а праз іх і тэатр.

## ЦІХА СПАЎ НАДВОРАК...

Жыццёвы лёс Максіма Багдановіча склаўся так, што яму надзвычай мала давялося павандраваць па яго роднай Беларусі. Назвы тых мясцін, якія Багдановіч азначыў сваім імем, няцяжка пералічыць на пальцах аднае рукі: Мінск, Ракуцёўшчына, Ратамка. Немаўляткам і да чатырох гадоў — жыў у Гародні. Колькі месяцаў, таксама дзіцём, пражыў у Вяззі паблізу Асіповічаў. Да згаданых назваў дадамо яшчэ і Карпілаўку, сядзібу Ядвігіна Ш. Пра тое, што Максім Багдановіч ездзіў у Карпілаўку, ведаем з успамінаў Зоські Верас. Яна расказвала пра Максімавы зборы ў дарогу — было халодна, адгаворвалі ад паездкі. Але ён рашуча настойваў на сваім: "Паеду і ўсё!" Прынеслі адмысловы кажух — пазычылі ў дэпоўскага вартаўніка — і Максім паехаў. Спрачацца з ім было дарэмна, такі ён быў рашучы.

Чаму ж такую настойлівасць выявіў Максім? Што яго так моцна цягнула ў Карпілаўку?

З лета 1916 года, за згоды Ядвігіна Ш., пра гэта ўжо згадвалася, у Карпілаўцы жылі дзеці беларускіх бежанцаў-уцекачоў. З гэтымі

дзецьмі ўся выхаваўчая праца вялася на беларускай мове. І вось Максіму, які толькі што прыехаў з Яраслава ў Мінск, вельмі захацелася паглядзець на гэтых дзяцей. Была і яшчэ адна нагода. Разам з прытулковымі дзецьмі ў Карпілаўцы жыла і дачка Ядвігіна Ш. — Ванда. З Вандаю Максім Багдановіч быў знаёмы завочна. З год ці болей ён ліставаўся з ёй, пісаў лісты ў Карпілаўку. Сюды ж, у Карпілаўку, Максім прыслаў Вандзе і карэктуру артыкула "Белорусское возрождение".

Яму хацелася пабачыцца з той, з кім ён дагэтуль шчыраваў у пісьмах. Дый так было цікава.

Карпілаўка сустрэла яго ціхім суладдзем. Балазе, прыехалі сюды надвечар. Асабліва Максіма заваражыла прырода. Увечары ўсе разам сабраліся на вячэру: Максім, Ванда, Ядзя, панна Людвіка. Весела, пад самаварава булькатанне, гаманілі, распытваліся ў Максіма, якое ў яго ўражанне пра Карпілаўку, як ён сябе пачувае, якія новыя вершы напісаў, што яго турбуе, як ён у Мінску ўладкаваўся. Максім ахвотна адказваў на пытанні, прачытаў і колькі сваіх новых экспромтаў.

Максім ведаў, што Ванда таксама піша вершы, друкавала іх ў "Нашай Ніве". Адзін з іх, "Майскія ночы", быў напісаны ёю, на яго думку, даволі гладка, з настроем. Гэты верш Максіму запомніўся. Ён быў надрукаваны ў "Нашай Ніве" ў адной падборцы з ягонымі вершамі. Прыгадваючы Вандзін верш, Максім адчуў: гэты верш нарадзіўся тут, у Карпілаўцы. У ім яму спазнавалася ўсё карпілаўскае: і краявіды, і пачуцці, і настроі, і фарбы...

## МАЙСКІЯ НОЧЫ

На палі, на лугі,
На пагуркі, лясы
Майскі вечар паволі спусціўся.
Звільгатнела зямля,
Легла густа раса,
Ясны дзень цёмнай ночкай змяніўся.
У нябёс вышыне,
У карагодзе-гульне
Дружна-весела зоркі стаўпілісь;
Ужо праца людзей
І клапоты звярэй
З наступаючай цемры спыніліcь.
Ночка... Сцішна кругом...
Маладзік серабром

Увесь свет Божы блескам злівае,
Як гусей караван,
Па даліне туман
Белым полагам зямлю ўсцілае.
Няма следу зімы:
Май, каханак вясны,
Прыбраў поле, узгоркі травою,
А чаромхі кусты,
Бэз, язмін і сады
Скрозь квяцістай акрыў пеляною.
Ясна ноч... Цішына...
Салаўя трэль чутна —
Сцішна, міла ў кустах раздаецца.
Ён пяе жыцця сон,
Аб каханні тне тон,—
Ад тэй песьні ў душы ўскалыхнецца...
Тады ўспомніш нудзьгу,
Свае мару, тугу,—
Памім волі зліешся слязамі...
Усё "былое" прайшло,
Больш не вернеш яго,
Сэрцу болесна, цяжка...

Верш хоць і быў даўгаваты, але не нудны. Якраз праз гэты верш Максіму бачылася Ванда — васемнаццацігадовая дзяўчына, злітная душою з карпілаўскай прыродаю, з яе краявідамі. Яе настроі былі блізкія і зразумелыя Максіму. Такія ж настроі панавалі і ў ягоных вершах. Імпанаваў Максіму і Вандзін патрыятызм — шчыры, непадкупны, як само жыццё. У тым жа самым вершы "Майскія ночы" з яе маладой душы выплеснуліся і такія радкі:

Як люблю цябе я,
Беларусь ты мая!
Твае ціхія майскія ночы,
Спёк і працу ў дзень,
Золкай раніцы цень,
Цяпло сонца і зоркі... як вочы,—
Звон далёкі люблю,
Плач жалейкі лаўлю,
Песню жаўранка ў высі глыбокай,
Граннё дудак, ражкі,

Поле, лес і лужкі,
Што вакола ляжаць вунь далёка.
Залацісты блеск ніў
І "пятроўкі" матыў,
Калі косы зіхцяць, серп мігае,
Пастаць усю тваю я,
Ты, Айчызна мая,
Я люблю, Беларусь, дарагая!..

...Больш блізка Максім пазнаёміўся з Карпілаўкай на другі дзень. Ён пераканаўся, што першае яго ўражанне не падвяло. Карпілаўка сапраўды была маляўнічая, варажыла сваёй красою.

Максіму яшчэ раз падумалася, што дзеці павінны тут пачуваць сябе добра.

Два няпоўныя дні прабыў Максім у Карпілаўцы, але яму хапіла часу нацешыцца і хараством сядзібы Ядвігіна Ш., і з дзецьмі з большага пазнаёміцца.

У нядзелю, у другой палове дня, Максім пакінуў Карпілаўку. У зваротны шлях ехаў адзін, ехаў моўчкі, зрэдку перакідваўся якім слоўцам з фурманам і думаў. Думаў пра вайну, пра незлічонае людское гора, якое яна з сабою нясе. Пра прытулковых дзяцей. Думалася яму, вядома ж, і пра Лявіцкіх. І найперш — пра Ванду і Ядвігіна Ш. Якія яны спагадныя і высакародныя! Хто б гэта мог, апрача іх, прытуліць гэтулькі дзяцей?! І адказу на сваё пытанне не знаходзіў. Самі жывуць, як патрапіць, а дзяцей прытулілі! А як яны абодва рупяцца, на духоўным палетку!

Талент Ядвігіна Ш. Максім цаніў высока, не раз пісаў пра гэта.

Пазней пра сваю паездку ў Карпілаўку Максім згадае ў артыкуле "Деятельность Минского Белорусского комитета". Пра сядзібу Лявіцкага скалка: маляўнічая, вельмі спрыяльная для здароўя. Але шмат сваіх думак і настрояў ён утоіць у самім сабе... Хіба мо якая з іх прарвалася ў верш? Можа, у гэты?

Выйшаў з хаты. Ціха спіць надворак.
Наплывае радасць, з ёю — сум.
Не злічыць у небе ясных зорак,
Не злічыць у сэрцы светлых дум.
Шмат зазнаў я горычы з нудою,
Што шчаміла, мучыла, пякла...
Усё ўжо прайшло, сплыло вадою,—
Маладасць не знікла, не прайшла!

Згаданы верш даследчыкі датуюць 1916 годам. Зусім верагодна, што ў ім карпілаўскія настроі, карпілаўскія думкі, развагі.

Чаму ж Максім, які гэтак рваўся ў Карпілаўку, так мала пабыў тут? Адказ на гэта адзін — яго ў Мінску чакала служба, і ён мусіў, пераначаваўшы, вяртацца.

## КОЖНУЮ СУБОТУ Ў КАРПІЛАЎКУ...

Найчасцей з усіх тагачасных беларускіх дзеячаў наведвала Карпілаўку Зоська Верас, тады яшчэ панна Людвіка Сівіцкая. Гэтага ад яе найперш вымагаў той клопат, які выпаў на яе долю. Яна лічылася загадчыцай дзіцячага прытулку, ёй даводзілася кожнага тыдня праведваць сваіх выхаванцаў, падвозіць новых, а таксама харчы для іх. Ад канца чэрвеня і да канца кастрычніка 1916 года, паводле яе слоў, яна кожную суботу з наладкаванай фурманкай у другой палове дня кіравалася на сядзібу Лявіцкага. Звычайна, згадвала панна Людвіка, выпраўлялася ў Карпілаўку з вуліцы Маскоўскай, дзе месціўся прытулак, і радзей ад "Беларускай Хаткі". Ездзілі на звычайнай фурманцы, якую "Таварыству помачы ахвярам вайны" вылучаў так званы "Союз городов". Надвечар прыязджалі ў Карпілаўку. Коні там начавалі. На другі дзень, і зноў пасля абеду, вярталіся назад. І гэтак усё паўтаралася кожны тыдзень на працягу пяці месяцаў. У суботу выязджалі з Мінску ў Карпілаўку, а ў нядзельку вярталіся назад.

Як жа ёй запомнілася Карпілаўка?

Насупраць брамы — дом. Налева, у глыбіні, маленькі дамок-кухня. Дом драўляны, невысокі, ашаляваны, але не маляваны — шэры. Страха крытая гонтамі.

... Ступаем на ганак, адтуль у калідор — перадпакой. Дзверы налева і направа. Направа невялікі пакой, за ім другі — вялікі, з якога дзверы вядуць на веранду. Яна цягнецца ўздоўж дому. З веранды сходы ў сад.

Гаспадарка, як падалося Людвіцы Сівіцкай, у Карпілаўцы была запушчана. Ва ўсякім разе ніякай актыўнасці гаспадарчай у Карпілаўцы яна не бачыла." У 1916 годзе,— пісала Зоська Верас у лісце за 12 сакавіка 1984 года,— амаль усю зямлю аддавалі сялянам "на палову". Не было ў Лявіцкіх ні каня, ні каровы..." Людвіка Сівіцкая, якая лічыла зямлю самым вялікім багаццем, дзівілася, як так можна жыць на такім вялікім кавалку зямлі. На запытанне, чаму Лявіцкія вядуць так гаспадарку, Ванда Лявіцкая аднойчы сказала:

"Няма каму гэтым займацца. Адзін мае здольнасці да агародніцтва, а другі — да літаратуры." Гэта вельмі здзівіла Людвіку Сівіцкую.

На самым беражку лесу запомніўся панне Людвіцы перад брамай вялікі куст белай ружы. Гэты куст ёй вельмі падабаўся. Ён быў такі радасны, вясёлы, што ад яго цяжка было адвесці вочы. Заязджала панна Людвіка ў Карпілаўку заўсёды ад таго ўзгорка, які намаляваў Галубок. Тут была брама. Адсюль бачыліся толькі дом і панадворак. Падабаўся панне Людвіцы і карпілаўскі лес: светлы, чысты, пасярэдзіне яго бруілася ручаінка. А папраўдзе панне Людвіцы не было калі займацца рознымі разглядамі. На гэта ў яе не ставала ані часу, ані вольнай галавы. Занятая клопатамі пра дзяцей, яна толькі іх і бачыла. Тым не менш з Карпілаўкай, з яе прыродай у Людвікі Сівіцкай звязаны і літаратурны псеўданім. Было гэта, праўда, ужо ў 1918 годзе і ў Мінску. З нейкай нагоды сюды завітаў сын Ядвігіна Ш. Лявон. Ён прывёз з сабой з Карпілаўкі сціплай красы букецік рана зацьвіўшага верасу. Гэты букецік ён падараваў панне Людвіцы. Падарунак быў вельмі дарэчы. Панна Людвіка нарадзілася ў верасні. А тут і верас ды яшчэ з Карпілаўкі. То яна і стала з таго моманту Зоськай Верас. Гэты яе псеўданім стаўся вечным ёй напамінкам пра Карпілаўку. Карпілаўскі букецік з верасу, паводле слоў Зоські Верас, быў хіба адзіна мілай хвілінай, перажытай ёй перад выездам у родную Сакольшчыну. Упершыню яна гэты свой псеўданім засведчыла ў рэдакцыі газеты "Вольная Беларусь".

## ГЭТА ЎСЁ З КАРПІЛАЎКІ

Ужо згадвалася, што Карпілаўка для Ядвігіна Ш. была не проста звычайная побытавая мясціна. Гэта была найперш калыска ягонага натхнення. Тут і толькі тут ён мог засяродзіцца, супакоіцца і пісаць. У Карпілаўцы ён напісаў свайго "Дзеда Завалу", "Успаміны", "Лісты з дарогі", раман "Золата", шматлікія абразкі, замалёўкі, імпрэсіі, народныя апавяданні, гумарэскі, алегорыі. Прынамсі, у Карпілаўцы напісаны "Чортава ласка", "Дуб-Дзядуля", "Бярозка" ды іншыя. Менавіта пад публікацыямі гэтых твораў стаіць пісьменнікава памета "Карпілаўка". І вершаванае павіншаванне "Нашай Ніве" з нагоды трэцяй гадавіны яе заснавання напісана Ядвігіным Ш. ў Карпілаўцы. З Карпілаўкі, з яе наваколля і шматлікія жарты, смяшынкі ў запісах Ядвігіна Ш. Гаспадар Карпілаўкі вельмі любіў жывое беларускае слова. Згадваюць, што ён і сам быў вельмі дасціпным апавядальнікам. У 1915 годзе яму нават удалося выдаць занатаваныя ім досціпы асобнай кніжачкай. Яна так і называлася — "Беларускія жарты".

Розныя гэта былі жарты, але найчасцей з прыроды самаго беларуса. Чаго ён не ведаў, чаго не разумеў, да чаго не быў звыклы — усё гэта стварала камічныя і смешныя здарэнні. От расказваюць: нібыта гэта было ў суседніх з Карпілаўкай Малых Бясядах, у маёнтку Чаховіча. Неяк пан вярнуўся з дарогі, а было гэта халоднай слотнай восенню, запрасіў фурмана на кухню і загадаў, каб яго для сугрэву напаілі гарбатай. Фурман дагэтуль ніколі не піў такога напою. Звычайна абыходзіўся чыстым варам з соллю ці з запаранай якой-небудзь зёлкай, галінкай маліны ці вішні. А тут панскі напой... Сядзіць фурман на кухні, п'е, пацягвае гарбату, смакуе. Смачная, ліха яе матары, салодкая, з цукрам! От ужо і шклянку апаражніў. Аж бачыць на дне якіясь цёмна-рыжыя, як махра, драбнічкі. Пасмакаваў — скрывіўся: гаркавыя. Але, каб не ўгнявіць, не пакрыўдзіць пана, ягоны пачастунак, то і тыя махрынкі з'еў. А пасля на панава пытанне: "Як гарбата?" сказаў: "І гарбату выпіў, і чаюнкі з'еў!"

Да беларускага селяніна сусветная цывілізацыя даходзіла марудна. Пра яго ніхто не дбаў. Ён адно ведаў: вечна араў, сеяў і жыў з таго, чым яго абдорвала ягоная зямелька, лес, рэчка, поплаў. Яму было не да заморскіх дзіваў. Але, жывучы на гэтай зямлі, краем вуха чуў, як паны жывуць, як яны там шыкуюць, смачна выядаюць і па-свойму ўсё гэта вытлумачваў.

— От і смачныя ў горадзе баранкі...
— А ты еў?
— Не, толькі бачыў, як паны елі...

...Варочаючыся з кірмашу, чалавек прыцыкнуў на дарозе і заснуў ды так моцна, што і не чуў, як боты з яго ног нехта зняў. Ажно едзе чалавек нейкі і крычыць: "Прымай ногі!" Заспаны мужык, глянуўшы на свае босыя ногі, кажа: "Едзь, едзь, гэта не мае ногі. Мае ў ботах!"

Ядвігін Ш. меў добрую памяць. Народныя формы клаліся ў яго голаў жыўцом. Гэтак жыўцом яны клаліся і на паперу. Калі ён браў у рукі асадку і пачынаў пісаць, яму чуліся жывыя галасы людзей, з якімі ён гутарыў, пра якіх ён збіраўся апавядаць, з іхняй мовай, мімікай, рухамі, тонамі.

У кніжачцы "Беларускія жарты" Ядвігін Ш. занатаваў сто трыццаць адзін досціп, сто трыццаць адну народную гумарынку. Былі тут ужо і досціпы літаратурнага вытоку, такога вось кшталту:

— А паненцы, хто больш да спадобы: пісар Янка Купала ці Якуб Колас?

— А мне што да іх за наўда! Я маю свайго кавалера: пісара ў воласці.

Згаданы жарт пра Янку Купалу і Якуба Коласа быў для Беларусі з'явай новай. Гэта ці не самы першы жарт пра нашых вялікіх беларусаў. Ядвігін Ш. першы праклаў баразну, першы, здаецца, зачаў у нас такую тэму, першы паклаў у яго падмурак такую цаглінку. А было гэта, нагадаю, у далёкім 1915 мройным годзе.

## ЛАПЦІ НА ПАТЭЛЬНІ
## (Карпілаўская быль)

У Карпілаўцы сваіх жабракоў не было. Находзілі з суседніх вёсак. Надаралася і начавалі. От адзін такі жабрак заначаваў у аднаго гаспадара. Як заначаваў дык і заначаваў: ужо раніца, уставаць пара, а ён усё спіць і спіць, як пшаніцу прадаў. Гаспадарам трэба ісці малаціць, а ён усё спіць ды спіць. Кінулі гаспадары яго аднаго ў хаце, а самі пайшлі на ток. А жабрак выспаўся, колькі яму хацелася, па хаце прайшоўся. Есці захацелася. Ён давай па гаршках ды варэйках лазіць. Зазірнуў у печ, аж там на патэльні гусак смажаны. Жабрак за таго гусака і ў торбу сваю. А замест гусака на патэльню свае атопкі шыбнуў. Шыбнуў — і з хаты прэч. Ідзе па вёсцы, пасміхаючыся, прыгаворвае: "Ой, Божа, мае людцы! Як свет змяніўся. Быў Гусакоўскі. Жыў у Панадворцы, пераехаў у Скавародцы. А цяпер з Скавародцаў перабраўся ў Тарбоўшчыну. Ці ж нядзіва, людцы, гэта?!"— казаў ён стрэчным. З гэтымі словамі ён і выйшаў з вёскі. А там шукай у полі ветру. Вярнуліся гаспадары з малацьбы, аж у хаце ні жабрака, ні гусака. Толькі лапці на патэльні.

## ЦЫМБАЛЫ ЎЖО ЛЯЖАЦЬ...

Ядвігін Ш., седзячы ў Карпілаўцы, шчыра дбаў і пра беларускі музей, збіраў для яго самыя розныя рэчы. І рабіць усё гэта яго падахвочваў добры прыклад Івана Луцкевіча. Вядома, было ў Ядвігіна Ш. і ўласнае перакананне. Ён нават напісаў спецыяльны зварот, у якім тлумачыў, што значыць музей для народа, для нацыі. У тым артыкуле-звароце гаварылася:

"Шмат жа ёсць яшчэ паміж нас такіх, каторыя з усёй душы хацелі б далучыцца да агульнай працы над адраджэннем і ўзростам роднага краю, але помач гэта для іх непрыступна. Дык вось нам трэба ўзяцца за такую работу, да каторай маглі б прыналежыць не толькі багаты, але і найбяднейшы: не толькі пісьменнік, але і бязграматны просты

рабочы. Мы павінны пачаць будаваць такі гмах, да закладкі каторага мог бы дакінуць кожны сын Беларусі сваю цаглінку.

Такім гмахам можа быць толькі Народны Беларускі Музей.

У ім павінны мы складаць, збіраць скарбы-памяткі даўно мінуўшага і цяперашняга жыцця і развіцця беларускага народа.

Калі гэты гмах стане і ці стане ён пры нас — Бог ведае, бо народ, каб ступіць адзін крок наперад, не раз патраціць цэлыя вякі гадоў, але даць пачатак, рабіць па сваёй сіле закладку — можам і мы.

Якія ж скарбы мы будзем складаць? А вось якія. Мо ў каго знойдуцца кнігі, паперы, малюнкі, разьба якая, мо аружжа, пасудзіна, мэбля даўнейшай работы; мо старасвецкія нацыянальныя вопраткі, тканіны, прыкрасы якія-колечы і мо прылады гаспадарскія і г.д. Кожная такая рэч, калі яна адна ў каго-колечы і перахоўваецца, ані карысці, ані вартасці вялікай не мае; зусім іншая справа, калі ўсё гэта збярэцца разам — у адно: разглядаючы гэтыя памяткі, перад намі быццам ажываюць, устаюць нашы прадзеды са сваімі прывычкамі, звычаямі, мы як бы заглядваем ў тое далёкае, даўно мінуўшае жыццё, ад каторага нас аддзялілі цэлыя вякі і тады спазнаем, куды мы самі ідзём...

Іншая зноў справа, што зложым мы ў музей — у гэты скарбец народны з нашага цяперашняга часу. Тут мы павінны помніць, што ўсё, што б мы цяпер ні сабралі, мае значэнне не толькі для нас саміх, але і для будучыні — для нашага патомства: як для нас на старадаўніх памятніках адбіваецца старадаўняе жыццё з яго культурай, так на тых рэчах, каторыя мы цяпер зложым, адаб'ём пячатку культуры і працы нашага часу, нашага жыцця для будучага патомства".

Экспанаты, розныя памяткі даўніны Ядвігін Ш. прапаноўваў прысылаць у Вільню ці прынамсі яму, у яго Карпілаўку.

"...Хто чым можа — хай дапаможа! — пісаў Ядвігін Ш.— У справе гэтай, так важнай для нас, вельмі хацелася б паслухаць рады і думкі сваіх прыяцеляў і чытачоў. Пішыце,— запрашаў пісьменнік,— у рэдакцыю "Н.Н.", а хто ласкаў да мяне: пашт. ст. Радашковічы Віленск. губ. Ядвігіну Ш. у Карпілаўку."

"Дык шчыра ж возьмемся за працу!"— клікаў Лявіцкі ўсіх, хто разумеў, што азначае беларускі музей для краю, які абуджаецца ад летаргічнага сну. Пэўна ж, і сам пісьменнік шмат чаго каштоўнага сабраў у акалічных з Карпілаўкай вёсках ды маёнтках і перахоўваў на паддашку свайго дома. Але што ім было сабрана — гэтага мы не ведаем. А збіраць у наваколлі Карпілаўкі было што. Прыкладам, Янка Купала пісаў у Пецярбург з суседніх Акопаў Эпімаху-Шыпілу 2.06.1913 года:

*"Даражэнькі Паночку!*

*Пасылаю Вам пры гэтым спіс кніжак, каторыя я тутака магу купіць... Акрамя гэтага, ёсць тут колькі дзесяткаў французскіх, нямецкіх і ангельскіх..."*

І гэта пісалася з правінцыі, з так званай глухамані. Але, як бачым, нескладана было ў тую пару тут знайсці кніжкі, пісаныя па-французску, ангельску. Вядома, такія кніжкі мелі найперш маёнткаўцы, але і пад сялянскай страхой тварылася жыццё. І тут ведалі цану розным каштоўнасцям, умелі і самі ствараць гэтыя каштоўнасці.

У звароце Лявіцкага было слова і да народных майстроў:

*"Шмат у нас ёсць гаспадарскіх прылад сваёй выдумкі, сваёй работы, ужываных у якой-колечы ваколіцы, а зусім не знаных у другой старане.*

*Шмат ёсць і розных мясцовых вырабаў, аб каторых далей мала хто ведае.*

*Шмат марнее ў глухіх кутках Беларусі і здатных працаўнікоў ці то да сталяркі, ці слясаркі, ці то да рысунку, ці так да якой-колечы работы...*

*Дык вось, каб усе мы прыслалі ў музей свае вырабы, свае пробныя работы, то з гэтага зладзілася б быццам паказная выстаўка".*

На думку Ядвігіна Ш., у Народным Беларускім Музеі павінны быць памяткі з побыту нашых братоў-беларусаў, што жывуць і на чужыне.

Але ўсё гэта было раскідана, разрознена, і беларускія адраджэнцы з неўтаймаванай апантанасцю шчыра ўзяліся ствараць прадстаўнічы Народны Беларускі Музей. І адным з яго рупліўцаў, як бачым, быў і гаспадар Карпілаўкі — Ядвігін Ш.

Ён заклікаў таксама збіраць гістарычныя звесткі пра нашы вёскі, засценкі, аколіцы, збіраць іх планы, апісваць промыслы, звычаі, мову, гаспадарчыя прылады. Прасіў усё апісваць падрабязна, дэталёва, з усімі драбнічкамі, каб Народны Беларускі Музей стаў сапраўдным нацыянальным агніскам, народным гмахам, каб праз яго беларусы спазналі не толькі сваю мінуўшчыну, але і сваё наступства, каб адчулі сябе праз музей народам, нацыяй.

Згаданы зварот ці, словамі самога Ядвігіна Ш., адозву пісьменнік паслаў у Вільню Аляксандру Уласаву. Аднак чамусьці гэтая адозва не была аддрукавана, патрапіла ў архіў. У фондах Нацыянальнага дзяржаўнага музея-архіва ацалеў і суправодны да яе ліст Ядвігіна Ш., у якім пісьменнік, захоплены ідэяй стварэння музея, пісаў: "Выбачайце, Аляксандр Мікітавіч, што шлю чорную пісульку, дый тую

разам з лістом да Власта, але бо ў нашай старане маркі, няхай іх смурод, вельмі дарагія... Пасылаю адозву да нашых чытачоў аб беларускім музеі. Варта ўзяцца нам гэтага і крыху прынамсі скранёмся з месца. Цымбалы ўжо ляжаць у мяне. Як іх пераслаць? Мо доктару Зап. падаць? Як будзе к налеццю з экскурсіямі? Варта было б пусціцца ў колькі пар, каб толькі заўчасу ўсё прыгатаваць і згаварыцца. Мо добра было б узяць білеты на продаж кніг? Мо свядэцтва ад "Георг. общ." Працы я маю яшчэ на якія нядзелькі 3-4, а пасля вазьмуся за пісанне "на шырокую ногу". Чаму фэльетонаў не прышлеце падмалёвываць? Мо б яшчэ далі мне якую работу? Надта яна мне патрэбна для свайго бюджэту, а здароўя цяпер у мяне, як у рабочага вала, хватае. Грошай да каляд не прысылайце, хачу доўг крыху адсунуць..."

На адвароце згаданага ліста змешчаны якіясь запісы:

| | |
|---|---|
| Лісты з дарогі | 69 |
| рады для гаспадароў | 70 |
| Трухлі | |
| Ожэвічы | |
| Лісты з дарогі | 133 |
| " " | 114 |
| Бакшты | 1 |
| Гудзішкі | 1 |
| Мацюлішкі | 1 |
| Аб усём патроху | |

І такіх запісаў праз агульную назву "Лісты з дарогі" даведзена да лічбы сорак. З геаграфічных назваў у спісе згадваюцца Дзеваргі, Чаневічы, Пайтукі, Мануйлы, Жукаўка, Цнянка, Кашкі, Саўдзеневічы, Умяна, Вялікія Бясяды, нават Пінск. Магчыма, гэта папярэдні план вандроўкі Ядвігіна Ш., якую ён зробіць летам 1910 года, ці план дарожных нататак, якія ён збіраўся пісаць. Гэта відавочна. Як відавочна і тое, што ў згаданай вандроўцы Ядвігін меўся не толькі бліжэй пазнаёміцца з краем, але і выявіць розныя памятныя рэчы для беларускага музея. Цымбалы ён ужо меў. І знайшоў ён іх ці ў самой Карпілаўцы, ці дзесь паблізу яе.

## НА ХАРУЖАНСКІМ КІРМАШЫ

Ядвігін Ш. — пра гэта ўжо згадвалася не адзін раз — пасля 1914 года жыў у Карпілаўцы мала. Найчасцей наездамі. Надаралася — цэлымі

месяцамі ён не завітваў сюды. Але былі дні, калі ён абавязкова кідаў усё і кулем ляцеў у Карпілаўку. Такім днём было чатырнаццатага кастрычніка. У гэты дзень у Харужанцах ладзіўся фэст — кірмаш. І Антон Лявіцкі, дзе б ні быў, стараўся вярнуцца ў Карпілаўку і ўсёй сям'ёй кіраваўся на свята. Свята гэтае ладзілася раз на год — то як яго прапусціць! І самому цікава паглядзець на гэты кірмаш, і дзецям было што паказаць. То з самага ранку кіраваліся ў Харужанцы. У гэты ж дзень акалічны люд святкаваў яшчэ і Пакровы — даўняе хрысціянскае свята. То люду ў Харужанцах збіралася шмат. Як бы тут сказалі б — людзей было, аж зямлі цяжка. У каго былі коні — ехалі конна, на вазках, брычках і на простым панарадзе. Просты то ён быў просты, але на кожным з іх аж зіхацелі сваімі ўзорамі посцілкі, вачэй ад гэтых узораў не было як адвесці. Шмат хто прыходзіў пешкі. Хто ехаў што-кольвек прадаць. Прадаць адно, купіць другое. Хто толькі купіць. Хто пабачыцца з далёкімі і блізкімі. І вядома ж, падзяліцца навінамі, хто што чуў, што кажуць людзі. Цікава было паглядзець, што ў каго і якое вырасла, хто якіх коней мае. Шмат хто ішоў ды ехаў не толькі сваё дабро паказаць, але і самога сябе, на людзей паглядзець. Ядвігіну Ш. таксама не было чужое ўсё людское, простае, побытавае. Але ён на кірмашах прыкмячаў і такое, што для простага вока было і непрыкметнае, нязначнае. То і нядзіва: ён жа быў пісьменнік, мастак слова. Ён жа і свет адчуваў інакш, чым іншыя.

Звычайна кірмаш ладзіўся ў мястэчках дзе-небудзь на цвітарным пляцы ці паблізу яго. Харужанцы ж былі выключэннем. Харужанцы свае кірмашы ладзілі на водшыбе ад вёскі, на перадмогілкавым пляцы, перад кладзішчамі. Чаму тут?
Ядвігін Ш. чуў, што калісь, даўным-даўно, жнейкі жалі жыта поблізу гэтай мясціны. От ужо і на вечар пачало брацца. Пара і дадому. Жнейкі знеслі апошні сноп да постаці — да нязжатай яшчэ збажыны. Тут жа і пастушкі кароў пасвілі. Як толькі жнейкі знеслі снапы, пастушкі пусцілі сваіх кароў на ржышча-ржэўнік. Каровы чагось растрывожыліся, разрыкаліся і пусціліся ў лес... Людзі за імі. Пабеглі і аж бачаць: на хваіне ікона — абраз Прасвятой Багародзіцы, Божай Маці. Гэтая вестка абляцела ўсю акругу. Дайшла яна і да святароў. Яны тут як тут абвясцілі гэтую мясціну святой. Адзін гаспадар будзе казаць: "Каб Бог дазволіў, я б тут каплічку паставіў". І Бог яму дазволіў. Асвяцілі яе ў праўную нядзелю на Пакровы. Вось з тае пары, перад кладзішчамі, і ладзяцца ў Харужанцах кірмашы, правяцца набажэнствы. Каплічка была праваслаўная. Пры ёй ахвяра, пры хваіне ямачка — з яе крынічка струменіла. Ваду тую прызналі

цудадзейнай. То і ахвяру клалі — хто грошы, хто палатно ахвяруе. Бог усё прымаў...
Лявіцкія былі каталікі. Але свята ёсць свята, кірмаш ёсць кірмаш. Тут, як у той лазні,— усе роўныя. На кірмашы адзін аднаго цешаць, вітаюць, радуюцца, мілуюцца. Звычайна, гэта былі кірмашы гаспадарчыя. Але з тае пары, як з'явіліся ў Пецярбургу на свет суполка "Загляне сонца і наша ваконца", а ў Вільні "Наша Ніва" — на харужанскіх кірмашах з'явіліся беларускія кніжачкі. Асабліва тутэйшыя сяляне і засцянковая шляхта цікавілася беларускімі каляндарамі. Гэта вельмі цешыла Ядвігіна Ш. У беларускіх календарах друкаваліся і ягоныя абразкі, і творы ягоных сяброў, калегаў-пабратымцаў. Вельмі часта сяляне вярталіся з кірмашоў з беларускімі каляндарамі. Тутэйшы люд спакваля далучаўся да друкаванага беларускага слова. З гэтай нагоды Лявіцкаму таксама было цікава пабыць на харужанскім кірмашы. Ля кніжных раскладак ён запыняўся даўжэй, чым ля іншых кірмашных тавараў. Яму было цікава пdescribed паглядзець, паназіраць, як селянін ці засцянковы шляхціч купляе беларускі каляндар ці якую іншую беларускую кніжачку. Беларус наогул, перш чым купіць што, прыкідвае доўга, каб жа толькі не прагадаць, не памыліцца, каб рэч прыдатная была, не папсутая, трывалая. А тут кніга прасілася ў рукі. І не абыякая, а каляндар, з парадамі, як даглядаць жывёлу, як весці гаспадарку. Практычнае нутро казала, што такая кніжачка яму патрэбна, але вось з капейкай цяжка было расстацца. І ўсё ж, пакруціўшы кніжачку і так, і гэтак, пачухаўшы не раз за вухам, а то і патыліцу, селянін нетаропка, нібы яшчэ раз думаючы браць ці не браць, даставаў які кісет ці проста вузельчык з мазольнай капейкай і купляў кнігу. І толькі ўжо дома, заглядваючы дзень пры дні ў той каляндар, пераконваўся, што не памыліўся, набыў у хату добрага дарадцу і сумоўцу, які яму штодня падказваў шмат з таго, што трэба рабіць, што яго чакае заўтра, паслязаўтра. А вось пакуль купляў — было ўсяго: і сумніў, і ваганне — хаця каб жа не памыліўся. Папраўдзе, гэта нашаніўцы да заглянесонцаўцы, выдаючы кніжкі на роднай мове, далучылі нашага простага беларуса да кніжкі. А дагэтуль нашы сяляне кніжкі, апроч малітоўнікаў, куплялі рэдка.

Розныя малітоўнікі, крыжыкі, ладункі, свечкі і цяпер былі на харужанскім кірмашы. Але ўжо да іх падсуседзіліся і беларускія кніганошы. Ля кніжных выкладак усчыналіся і беларускія размовы, размовы на беларускія тэмы. А гэта ўжо было новае для харужанскіх кірмашоў. Даўней тут таксама ўсё было беларускае: і мова, і музыкі, але ўсё гэта неяк плыло-цякло само сабою. Цяпер жа ўсё

асэнсоўвалася як нешта такое выразнае, канкрэтна акрэсленае. І ўвесь той кірмаш неяк успрымаўся інакш, чым даўней.

Багаты быў пакроўскі харужанскі кірмаш. Усё, чым надарыла чалавека праца, прырода, было тут: і сушаныя грыбы, і ўюны, і грушкі, і яблычкі, і пернікі запечаныя, як паненачкі, як конікі. Няздарма ж кажуць: "На кірмашы ўсяго ад душы для душы". Лявіцкія таксама прывозілі яблыкі з свайго саду. Вядома, сам Лявіцкі гэтым не займаўся. Гэта быў найперш Лявонаў клопат. Яблыкі з саду Лявіцкіх на кірмашы ішлі добра, іх смак акалічны люд ведаў і купляў з ахвотай.

Лявіцкі праводзіў на харужанскім кірмашы звычайна ўвесь дзень — ад самага пачатку да яго завяршэння. Усё яму тут падабалася. І людзі, і іхнія нетаропкія, разважлівыя, з годнасцю размовы. Яму цікава было паглядзець, як хто і ў што апрануты. Даўней жа кожны сам сябе апранаў, кожны меў сабе свой крой. Ядвігін Ш. прыходзіў на кірмаш у шарачковай світцы. Рабіў гэта ён трохі наўмысна, каб не вельмі вылучацца сярод людзей. Гэта адно. А другое, яму падабалася гэтая зручная сялянская світка. Яе яшчэ называлі марынарка. Зручная, ёмкая. І цёплая.

Вельмі падабалася Ядвігіну Ш. завяршэнне кірмашу, яго раз'езд. Гэта былі маляўнічыя раз'езды... Развітанні, абдымкі, пажаданні, зычэнні, запрашэнні заехаць пасля кірмашу яішчэ на госці. Раз'язджаліся з песнямі. У адной з іх спявалася: "На кірмашы да ўсе нашы..." І гэта былі праўдзівыя словы. Дзе-дзе, а на кірмашах і напраўду адзін аднаму былі кумамі, братамі, сватамі.

## ЗЯЦЬ

З 1917 года зачасціў у Карпілаўку і Язэп Лёсік. Ён ў траўні вярнуўся з Сібіры, але адразу ж, як толькі патрапіў у Мінск, укруціўся ў вір грамадскага і палітычнага жыцця. Яму таксама хацелася хоць раз убачыць родную Беларусь вольнаю. А час спрыяў. Дзеля гэтага ён не шкадаваў ні сілы, ні здароўя. Яму лёсіла напаткаць і такую ж апантаную Беларуссю дзяўчыну. Гэтай дзяўчынай сталася Ванда Лявіцкая. Увосень 1917 года яны пабраліся, узялі шлюб. Натуральна, што Язэпа Лёсіка як зяця Ядвігіна Ш. часта пачалі спатыкаць у Карпілаўцы.

Язэп Лёсік не хаваў свайго задавальнення з такога сваяцтва. Ён з такой параднёнасці пачаў сябе пачуваць больш трывала, упэўнена, грунтоўна. Пасля 1917 года жыццё сям'і Лявіцкіх для яго стала штодзённым клопатам, трывогай. У гэтую пару Ядвігін Ш. пісаў у

Карпілаўцы сваю вялікую эпічную рэч — раман "Золата", твор меладраматычны з цікавым псіхалагічным зместам. Язэп Лёсік зацікавіўся новым творам Ядвігіна Ш., папрасіў дазволу пазнаёміцца з рукапісам. Пісьменнік напачатку запярэчыў: "Не скончыў я яго яшчэ..." "А вы сабе канчайце,— лагодна сказаў Лёсік.— А нам, для "Беларусі", дайце, што ёсць. Хай людзі ведаюць, хто што робіць з беларускіх пісараў..." "Ну хіба што так",— пагадзіўся Ядвігін Ш. І раман пачаў друкавацца ў газеце "Беларусь". Язэп Лёсік, калі не лічыць Ванду, быў першым чытачом першага беларускага рамана. Ён быў задаволены, што яму першаму выпала пусціць у свет згаданы твор.

Язэпу Лёсіку, як і ўсім яго папярэднікам, вельмі падабалася Карпілаўка. Тут яму было суцішна, добра думалася пра Беларусь і беларусаў, пра самога гаспадара Карпілаўкі, які гэтак зладзіў, упарадкаваў сядзібу ў згодзе з прыродай. "Вось каб яшчэ кожны селянін гэтак паруліўся ля свае хаткі, ля свайго дамка, якая б наша Беларусь сталася вабнаю!— думалася Язэпу Лёсіку ў часе разваг пра Карпілаўку. — А так яно і будзе,— пераконваў ён сябе. — Так яно і павінна быць. Бо што значыць любіць Беларусь? Гэта, пэўна, найперш дагледзець як след той кут, дзе ты жывеш... А калі гэтак зробіць кожная сям'я, то ўся Беларусь за які год-другі стане райскім садам... У беларусаў для гэтага ёсць усё. І сам беларус працавіты, нязломак. Толькі вось трэба яму дух падняць, акрыліць яго... А гэта можа здарыцца толькі тады, калі беларус сам загаспадарыць у сваёй старонцы! Памажы яму Божа!.." Такія і іншыя думкі хадзілі-ладзіліся ў галаве Язэпа Лёсіка ў Карпілаўцы. За Лёсікам ужо была не толькі газета з мройна-салодкай назвай "Вольная Беларусь", але і кніжачка "Аўтаномія Беларусі". А яшчэ яму мроілася напісаць шэраг кніг па мове: падручнікаў, даследаванняў. Ён быў згодны з Ядвігіным Ш., што "мова — кроў нацыі". Гэтую думку Лёсік паглыбіў па-свойму: "Мова становіць усё: нашу палітыку, эканоміку, наш грамадскі лад жыцця".

У Карпілаўцы Язэп Лёсік шмат чытаў. І найперш творы самаго гаспадара сядзібы. Яны тут неяк інакш чыталіся і гучалі інакш, і ўспрымаліся інакш. Але Язэп Лёсік не проста чытаў. Ён яшчэ і працаваў з кнігамі Ядвігіна Ш., выпісваў з іх цікавыя прыклады для сваёй граматыкі.

## ЦІ РАЗМАЎЛЯЮЦЬ ДРЭВЫ?

Пераважна гасцямі Лявіцкага былі дзецюкі. Але аднойчы ягонай госцяй сталася адна паненка. І не абы-якая, а самая мужная на Беларусі, самая апантаная на тую пару — Палута Бадунова. Завітала

яна ў Карпілаўку ўлетку 1918 года. Год 1918 вядома які быў на Беларусі.

...Адступленне бальшавікоў. Пасля пачалася нямецкая акупацыя. Абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка. Ва ўсіх гэтых падзеях шчыравала і Палута. Яна таксама вельмі жадала ўбачыць Беларусь вольнай, незалежнай. Дзеля гэтага яна рабіла ўсё, што магла, што ад яе залежала. Яе аўтографы стаяць пад другой і трэцяй Устаўной Граматай. Яна была міністрам апекі першага ўраду Беларускай Народнай Рэспублікі. Ядвігін Ш. таксама пільна сачыў за ўсім, што рабілася на Беларусі. Яму таксама не адзін раз даводзілася з Палутай быць на адных і тых жа сходах, кангрэсах. Скажам, яны разам засноўвалі з ёй Беларускі настаўніцкі хаўрус у 1917 годзе. Разам былі 15 кастрычніка 1917 года на з'ездзе беларусаў-воінаў Заходняга фронту, трэцяга з'езда Беларускай сацыялістычнай грамады. Пра гэтую падзею нават здымак ацалеў. Ядвігін Ш. і Палута Бадунова на гэтым здымку амаль побач. Згаданы з'езд праходзіў у колішнім доме губернатара. Там і зняліся на доўгую памяць. Шмат чаго і іншага рабілі яны разам, супольна. Гэтак блізка, здавалася, іхняя запаветная мара. Здавалася, яшчэ трохі, яшчэ трохі самаахвярнасці, намаганняў — і незалежная Беларусь усталюецца грунтоўна і надоўга. Але сілы адраджэнцаў былі няроўныя. Яны знемагалі, рваліся з жылаў. Аднаго разу, калі варункі ў краіне стварыліся няпэўныя, Ядвігін Ш. запрасіў сваю аднадумцу і паплечніцу ў Карпілаўку, перавесці там дух, абдумаць, што далей рабіць, як далей жыць. Палута была ў Карпілаўцы ледзь не месяц. Ядвігін Ш., як усім іншым, ранейшым гасцям, паказваў Палуце свой фальварак, расказваў, што тут зрабіў сваімі рукамі дзеля яго хараства. Аглядаючы сядзібу з ганачка, ён казаў:

— Усё, што тут бачыце, гэта ўсё я пасадзіў сам. І гэты сад, і клёны, і бэз, і маладзенькія дубкі. Мой невялікі фальварак сваім хараством будзіць зайздрасць нават у багатых паноў...

Лявіцкаму было лёгка з Палутай. Яны разумеліся з паўслова. У іх было аднолькавае адчуванне прыроды, рамантычнае, шчымлівае, а мо нават трохі і містычнае. Абодва лічылі, што кожная раслінка, кожная травінка ўсё разумеюць, усё адчуваюць: і страх, і боль; што дрэвы ўмеюць размаўляць між сабой: у часе буры яны стогнуць, клічуць людзей на дапамогу, але тыя не чуюць іх; што трава, калі косяць яе, крычма крычыць з болю; калі піць хоча, таксама крычыць: "Вады!" Той жа Лявіцкі казаў Палуце: — Нішто мяне так не радуе, нішто мяне так не цешыць, як маладыя дрэўцы, як догляд іх. У мяне да іх містычная любоў. Гэта, пэўна, ад маіх дзядоў і прадзедаў засталося мне... Як нажом па сэрцы рэжа мяне, калі бачу, як

безгаловыя людзі глумяць дрэўцы. Я замазваю гэтыя раны на дрэўцах. І не толькі ў садзе, але і лесе... Баліць маё сэрца за наш беларускі лес... Без лесу наша зямля высахне і запусцее, рэчкі высахнуць. Пяскі запануюць... Лес — гэта наш бацька і няможна глуміць яго без вялікай патрэбы...

Ад Палуты таксама можна было пачуць думкі такога кшталту. Яна, прыкладам, шмат каму казала: "Вось бачыце — фікус... І што? Думаеце, ён не жывы, нічога не чуе, нічога не разумее? Ой, памыляецеся! Ён усё бачыць, усё чуе, усё разумее... І я яго разумею... І мне з гэтага жыць лёгка і цікава..." І вось яна напаткала і яшчэ аднаго такога дзівака, які чуе, як дрэвы стогнуць, як зёлкі плачуць, скардзяцца. Іхнім размовам не было канца.

Падчас Палуцінай гасціны ў Карпілаўцы Ядвігін Ш. хварэў. Ён скардзіўся Палуце:

— Гляньце к лесу! Колькі тутака, над тымі камянямі, мною з сынам поту праліта, колькі сілы пакладзена. Вось гэтыя кучы мы ўдвох паскладалі, падымаючы з поля кожны каменьчык. А вялікія камяні, па некалькі пудоў, узвальвалі на калымажку і вывозілі сюды. Гэтае каменне падарвала маё здароўе. Мой жывот баліць ужо шмат гадоў. А першыя болі пачуў я, пацягаўшы гэтае каменне...

Пражытыя Палутай Бадуновай дні ў Карпілаўцы з сям'ёй Лявіцкага былі для яе незабыўныя. Пакідаючы Карпілаўку, яна занатавала: "Ужо фурманка чакала мяне, а добры гаспадар усё яшчэ не пускаў мяне ехаць. Ён ужо аправіўся і вельмі прасіў мяне яшчэ пагасцяваць у іх. Але праца чакала мяне ў Мінску, і хоць з вялікім жалем, але я мусіла пакінуць прывабную сямейку... Ніколі не забуду я тых ціхіх вечароў, якія мы правялі на ганачку каля хаты пісьменніка..."

Гэтыя і іншыя свае згадкі пра карпілаўскую пабыўку Палута Бадунова змясціла ў зборніку 1922 года "Адраджэнне". Ёсць у яе згадках і колькі цёплых слоў і пра гаспадыню Карпілаўкі — Луцыю Гнатоўскую: "Ціхая, як анёл, з чулым сэрцам і развітым розумам". Бачыла Палута на свае вочы, як Луцыя рупілася "без ядынага папроку" пра свайго хворага мужа: "не адыходзілася ад яго, па тры разы ўдзень рабіла яму ванны, цягаючы з надворку вялізныя чыгуны з гарачай вадой. Яе маленькая худзенькая хфігурка то з'яўлялася ў хаце, то зноў счазала на дварэ... І ўся сям'я жыла і дыхала пісьменнікам..."

Палута Бадунова мела і літаратурныя здольнасці, пісала вершы, і гэта таксама збліжала Ядвігіна Ш. з мужнай і незвычайнай, чымсьці загадкавай, незямной жанчынай, якая свядома абрала для сябе крыжовы шлях, не па сіле які нават дужаму мужчыну.

## АПОШНІЯ ПАБЫЎКІ

Трывогі Ядвігіна Ш., як і іншых беларускіх дзеячаў, былі недарэмныя. У Германіі ў лістападзе 1918 года адбылася рэвалюцыя. Немцы паспешліва пакідалі Беларусь. Гэта скарысталі бальшавікі і пачалі вяртацца з войскам у наш край. 10 снежня 1918 года маскоўскія чырвонаармейцы былі ўжо ў Мінску. Беларуская дзяржаўнасць рухнула. Беларускія дзеячы спрабавалі наладзіць перамовы з Масквой аб захаванні беларускай дзяржаўнасці, але там іх ніхто і слухаць не хацеў. Жыццё на Беларусі становіцца няпэўным, а нават і нябяспечным. Праўда, неўзабаве — 1 студзеня 1919 года — была абвешчана Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка. Але на наладжванне хоць якога нацыянальнага жыцця бальшавікі не пагаджаліся. У 1919 годзе на Беларусі не было ніводнай дзяржаўнай штодзённай газеты на беларускай мове. Выдалі колькі нумароў "Вестак Часовага рабоча-сялянскага савецкага ўраду Беларусі" і на гэтым усё. На ўсе запытанні, чаму так, чуўся здзеклівы адказ: "А беларусы не ўмеюць чытаць па-беларуску!" Нават гучалі патрабаванні выкінуць і думкі з галавы пра якуюсь Беларусь, беларускасць. 5 лютага 1919 года газета "Звезда", падсумоўваючы вынікі Першага звезду Саветаў Беларусі, даволі пагрозліва пісала: "...Съезд подтвердил, что потуги белорусской национальной интеллигенции к созданию своего белорусского языка, своей национальной культуры напрасны... Пусть примут это к сведению белорусские писатели..."
Што ж можна было думаць і рабіць пасля такой заявы? Вядома, шукаць больш памяркоўных сумоўцаў. Ядвігін Ш. зноў вяртаецца ў сваю выратоўную Карпілаўку і садзіцца пісаць успаміны. Але не паспеў іх закончыць, як на Беларусь прыйшлі яшчэ адны прэтэндэнты на яе выратаванне — Пілсудскі з суседняй Польшчы. Жыць спакойна не было як. Лявіцкі думае, разважае, што рабіць, да каго прыхінуцца, да каго далучыцца, да каго прыбіцца. А тут аб'яўляецца генерал Булак-Булаховіч з сваім войскам, бярэцца вызваліць Беларусь ад усіх ворагаў, і пісьменнік Ядвігін Ш., для якога воля, незалежнасць Беларусі сталі мрояй з юнацкіх гадоў, далучаецца да паходу апальнага генерала. Ён ідзе з ім у так званы вызваленчы паход — пешы марш з войскам Булак-Булаховіча на поўдзень Беларусі пад бел-чырвона-белым сцягам. Быў у Пінску, Лунінцы, супрацоўнічаў з газетай "Зьвястун", выдаванай пры войску Булак-Булаховіча. Але неўзабаве зняможаны, расчараваны сяк-так дабіраецца да Карпілаўкі. Трохі акрыяўшы, развітваецца з сям'ёй, сядзібай, бярэ з сабою некаторыя рукапісы і едзе ў Закапана на

курорт для сухотнікаў. З восені 1920 года ён ужо ў Вільні. Чаму ў Вільні? Ядвігін Ш. дачуваецца, што генерал Жалігоўскі абвясціў у Вільні незалежную Сярэднюю Літву. У сярэдняй Літве паўсюль адчыняюцца беларускія пачатковыя і сярэднія школы. Вядомыя беларускія адраджэнцы — Вацлаў Іваноўскі, Вячаслаў Багдановіч, Браніслаў Тарашкевіч — займалі ў гэтай дзяржаве ключавыя пасады. Шмат каму з беларускіх адраджэнцаў падалося, што якраз у Сярэдняй Літве ствараюцца спрыяльныя ўмовы для ўладкавання нацыянальнага жыцця. Нядзіва, што Ядвігін Ш., дачуўшыся пра ўсё гэта, пакіраваўся ў Вільню. У склад Сярэдняй Літвы ўваходзілі пераважна беларускія землі: колішні Віленскі павет, Троцкі, Ашмянскі, Свянцянскі. З БССР жа рабіліся метамарфозы. Магілёўшчыну, Віцебшчыну, Гомельшчыну далучылі да Расіі. За Беларуссю пакінулі толькі шэсць паветаў. Ці не магло ўсё гэта насцярожыць беларускіх дзеячаў? Безумоўна, насцярожвала. Яны верылі, што ўсё гэта часова, што так не павінна быць. Жылі надзеяй. Жыў надзеяй і Ядвігін Ш. З Вільні ён пісаў у Карпілаўку сваёй сям'і: "Лічу я дні і гадзіны, калі вярнуся дахаты... Яшчэ можа дасць Бог з вамі ўбачыцца..." Але ўбачыцца было ўжо не наканавана. Паводле Рыжскай дамовы 18 сакавіка 1921 года Беларусь была падзелена між Польшчай і Расіяй на Усходнюю і Заходнюю. Ягоная родная Карпілаўка засталася па той бок мяжы, за Саветамі. Дый і здароўе з кожным днём горшала.

У 1921 годзе ён прычакаў яшчэ кніжачку сваіх успамінаў, а чацьвёртага лютага 1922 года лёг у віленскую літоўскую клініку, дзе 23 гэтага ж месяца і сканаў. Цела ягонае засталося ў Вільні, а душа ж яго дзесь лётае над Карпілаўкай і сёння.

Хоць Вільня і была за мяжою, усё ж вестка пра смерць Ядвігіна Ш., хай і запознена трохі, неяк дайшла да Карпілаўкі. Паводле слоў Язэпа Лёсіка пра смерць Ядвігіна Ш. Беларусь даведалася з замежных газет. Вось дакладныя Лёсікавы словы з гэтай нагоды: "... А вось сёлета, яшчэ на прошлым тыдні, загранічныя газеты прынеслі новую жалобную вестку аб смерці Ядвігіна Ш., Антона Лявіцкага і — гэтаксама ад сухотаў". Гэтыя Лёсікавы словы з ягонай прамовы на пахаванні Алеся Бурбіса, сказаныя ім 22 сакавіка 1922 года.

Вядома, з'ездзіць на пахаванне Ядвігіна Ш. ніхто з блізкіх не змог. Кажуць, нібыта сын Лявон, які жыў на тую пару ў Варшаве, прыляцеў развітацца з родным яму чалавекам. Усе ж астатнія такой магчымасці не мелі: і мяжа не дала гэтага зрабіць, і запознена вестка прыйшла з Вільні. Але ягоная жонка парупілася, каб і Карпілаўка развіталася з сваім гаспадаром. У суседніх з Карпілаўкай Будах была прыстасавана пад касцёл Яцкевічава хата. То ў гэтай хаце справілі па Лявіцкім

жалобную імшу. Прыехаў з Радашкавічаў ксёндз, і ўсё было зроблена як мае быць па-людску.

Памаліліся за спакойдушы Лявіцкага, паставілі свечкі, справілі жалобны абед. Пахавалі Ядвігіна Ш. у Вільні на старым могільніку Роса недалёка ад брамы пры самай дарожцы. На яго магілку, на магілкавы курганок, леглі вянкі з бел-чырвона-белай стужкай — стужкамі нашага нацыянальнага сцяга, таго сцяга, сведкам і сучаснікам адраджэння якога ён быў сам. З гэтым сцягам да яго магілкі прыходзілі неаднойчы. Гэтак было і ў 1937 годзе падчас адкрыцця помніка. З бел-чырвона-белым сцягам я бачыў ля ягонага курганка і наведнікаў з Беластока. Гэта ўжо ў нашу пару, у наш час. На шэрым помніку выбіты словы:

"Даўно гэта было.
Хадзіць чуткі сталі,
Аб вялікай волі
Усе заталкавалі..."

## ТУТ ЗЯМЛЯ ТАКАЯ

Здаецца, пра ўсё, што было варта расказаць, расказана. Можна было б ужо і кропку паставіць. Але паставіць яе мне штось замінала. Хадзіў па карпілаўска-акопскай акрузе і думаў: "Карпілаўка! Акопы! Такія паэтычныя мясціны! І ўжо даўно гістарычныя! Няўжо яны больш нікога не абудзілі: не абудзілі цікавасці да слова, да краю, да свайго народу, яго побыту? Няўжо так на Купалу і Ядвігіну Ш. застыглі? А дзе ж працяг? Дзе працяг Купалавага і Ядвігіна Ш. творчага ўзлёту?" І працягу не бачыў. Дый скуль таму працягу было ўзяцца, калі самі літаратурныя гнёзды былі зруйнаваныя, калі яны абязлюдзелі. І ўсё ж, усё ж, як крынічку не руйнуй, як яе не засыпай, як яе не трамбуй, не завальвай, яна будзе, хоць і схаваная ад людскога вока, жыць, струменіцца і знойдзе сабе абавязкова дзе-небудзь выйсце. Гэтак здараецца і з талентамі...

У суровым 1942 годзе, калі наша зямля стагнала пад каваным фашысцкім ботам, у Карпілаўцы, неўзабаве пасля трагічнай гібелі ў Маскве Янкі Купалы, у сям'і цёткі Зосі і дзядзькі Хведара, нарадзіўся хлопчык Сяргей. Ніхто тады не думаў і не гадаў, што з гэтага кволага, апаленага вайной немаўля, прарасце аднача сова і літаратар, і мастак. Пра гэта не ведаў і сам Сяргей. Але аднойчы адчуў, што ў ягонай душы заспяваў, загаманіў жаўрук. Заспяваў найперш пра тую зямлю, якая пусціла яго ў свет. З тае пары новы пясняр карпілаўска-

акопскага абшару напісаў шмат самых розных твораў. І адзін з іх ён, натуральна, прысвяціў свайму слыннаму земляку Ядвігіну Ш. Гэты твор ён так і назваў "Пан Лявіцкі". Ва ўступе да паэмы Сяргей Давідовіч напісаў:

**ПАШАНА**

Як кажуць, падгаілася ўжо рана.
Ці варта сёння ўспамінаць нам пана,
Ды варушыцъ мінулы час далекі?
— Паны ж — рабаўнікі і крывасмокі,—
Вучылі нас...

"Антон Лявіцкі,— кажа Сяргей Давідовіч,— што б мы там ні гаварылі, быў для акалічных сялянаў найперш панам. Але ці быў ён панам?"— рытарычна пытаецца аўтар паэмы. І адказвае:

Ён беларусам быў самаадданым
Сваей Радзімы быў ён патрыётам!
За хлеб, што еў, плаціў крывёй і потам.
Першапраходзец беларускай прозы
Апісваў лёс людзей, іх смех і слёзы,
Ён спачуваў нястачы і бядноце,
Бо, часам, сам не меў расінкі ў роце,
Быў звязаны з нядоляй вечным шлюбам,
А заставаўся чалавекалюбам.
І ў гэтым бачыў штосьці найсвятое.
Такі вось пан... А ў чым жа панства тое?
У тым, што ў сэрцы нёс не ноч, а ранак?
Што білася яно нібы падранак
Ад крыўды, што сціскаюць ранак хмары,
Ад болю за загінутыя мары?
Ці панства ў тым, што не было пытання,
Як жыць далей? І ён абраў змаганне.
Усё жыццё бадзянні і турботы,
А вынік неўцяшальны быў — сухоты.
Яны прыйшлі прадвеснікам магілы...

Пра гісторыю гэтага свайго твору паэт сказаў: "Я з малых гадоў чуў пра Лявіцкіх — ад мамы і таты і ад іншых людзей. Але доўга чутае пра іх ляжала ўва мне непраpослым зернем, аж пакуль я не зразумеў,

што такое Карпілаўка для Беларусі, для яе культуры. А як зразумеў, тады і напісаўся згаданы твор..."

Сяргей Давідовіч жыве ў Мінску, але ён мае і дамок з катом і буслам на вільчаку ў Карпілаўцы. Пра Лявіцкага, ягоную сядзібу кажа: "Я часта прыходжу сюды. І шчымліва тут, і радасна. Радасна, што тут жыў такі бяссрэбранік! Шчымліва, што тут такое запусценне. І ўсё ж тут хораша. Паглядзіце: вакол прысады, лес, як вяночак, а пасярэдзіне сад, здзічэлы, але мілы! Гэты сад сваёй рукою пасадзіў сам пісьменнік. Ён яго песціў, даглядаў. А тут жа і ружы, шыпшына, парэчкі... Я гэтак звыкся з вобразам Лявіцкага — Ядвігіна Ш., што мне часам здаецца, што ён зараз вынырне з-за якога-небудзь куста... У саламяным капелюшы, з бародкай, сухарлявенькі... Такім яго бачыла мая мама, пра такога яна расказвала мне..."

Сяргей Давідовіч, гэтак жа, як Ядвігін Ш, любіць сваю Карпілаўку. Ён, як можа, клапоціцца і пра сядзібу свайго слыннага суседа. Не адзін раз ён ратаваў знакамітага Дуба-Дзядулю ад дзікунскіх выхадак бяздумных пастушкоў, якія выпальваюць яму сэрца і душу. "Клаў у рану дзёран і гліну",— кажа паэт. Сяргею Давідовічу, паэту і мастаку з Карпілаўкі, блізкая і зразумелая постаць Ядвігіна Ш. Жыццё гэтага бяссрэбраніка жывіла і жывіць талент карпілаўскага самародка, робіць ягонае слова такім жа ясным, шчырым, самаахвярным, адкрытым, аголеным, як нерв, якім карысталіся ягоныя славутыя землякі — Ядвігін Ш. і Янка Купала. Гэта дае падставу меркаваць, што ніколі не перасохнуць на карпілаўска-акопскім абшары тыя творчыя крынічкі, якія распачыналі на гэтай святой зямлі Ядвігін Ш. і Янка Купала. Тут гэтаму сама зямля спрыяе, тут, як гаворыцца ў славутым беларускім паданні, сама зямля спявае.

## "ВОРАГІ" НАРОДА

Такі лёс сядзібы Ядвігіна Ш. А што ж сталася з пісьменнікавай сям'ёй? Які напаткаў яе лёс?

З пісьма Ванды Лявіцкай да Зоські Верас за трэцяга жніўня 1964 года:

"Мая родная, дарагая Людачка!

Ты, здаецца, знала маіх меншых братоў — Ваціка і Казіка? Вацік з трынаццаці лет быў "гаспадаром" у Карпілаўцы: араў, касіў, сеяў, жыў з мамай і астаўся малаграматным. Язэп Юравіч забраў малодшага — Казіка, давёў яго, што скончыў Полацкі лесатэхнікум. У 1929-30 г. іх прызналі "сынамі памешчыка" і выслалі разам з сёстрамі Купалы і іх сем'ямі ў Барысаў на перасыльны пункт. Купала сваіх адстаяў, а

заступіцца за дзяцей Ядвігіна Ш. ў яго духу не хапіла. Разам з Купаліхай мы паехалі ў Барысаў: яна з "бумажкай", а я ... з пустымі рукамі — Паехалі мае хлопцы ў Архангельскую вобласць, на Зах. Дзвіну. Вацік там памёр. Казік салдатам загінуў пад Ленінградам..."

Быў у Ядвігіна Ш. і яшчэ адзін сын — старэйшы. Звалі яго Лявон. Ягоны лёс таксама малавядомы. Яшчэ да падзелу Беларусі на Усходнюю і Заходнюю ён патрапіў у Польшчу. Там напачатку вучыўся, а пасля працаваў у розных установах. Купалы бачылі яго ў Варшаве, дзе ён вымушаны быў прыняць польскае падданства і працаваў бухгалтарам у нейкім аўтамабільным т-ве. Апошні раз бачылі яго салдатам польскага войска. Пасля гэтага яго больш ніхто не сустракаў. Мабыць, таксама загінуў у віры вайны.

Страту братоў Ванда перажывала невымоўна моцна. Гэта, паводле яе слоў, была самая цяжкая старонка з яе жыцця. Усе ж трое хлопцаў выраслі на яе руках. Усіх іх яна выхадзіла, вынянчыла. Была старэйшая ў сям'і, дык і гадавала і люляла. То як было не зашчымець яе сэрцу ад такой крыўды, ад такой страты, каб усіх траіх пад корань!

Вацік і Казік любілі зямлю, любілі на ёй гаспадарыць. Не лезлі ні ў якую палітыку. Яны нават пагадзіліся пайсці ў калгас, які тут стварыўся, але іх не ўзялі, сказалі: "Калгасы не для панскіх сыноў!"— і паслалі спачатку ў Котлас, а затым перавялі на лесапавал пад Верхні Томск. Ванда аднаго разу паспрабавала праведаць братоў. Сяк-так дабралася да Котласа, але яе да іх не дапусцілі. На лесапавале Вацік страціў вока, і яго перавялі на конюха. Але ён не вытрымаў паднявольнай працы і там памёр. Казік жа выдужаў, але падкруцілася вайна, і яго накіравалі на фронт, дзе ён і загінуў, склаў сваю галаву. Пра лёс братоў Ванда даведалася праз добрых людзей. Дзяржава ж не дала ёй пра іх ніякай вестачкі, як быццам у іх нікога не было.

А як жа склаўся лёс самой Ванды? Ой, хапіла і яна гора-горачка дый яшчэ якога! З 1930 года пачалі дапякаць і яе сям'ю. І найперш дарагога ёй чалавека — Язэпа Лёсіка. Абвясцілі яго нацдэмам, ворагам народа, шкоднікам. Пачаліся вобыскі, арышты. Жыццё ў Мінску зрабілася невыноснае. Шукаць паратунку ці якой падтрымкі не было ў каго. Язэпа Лёсіка выслалі з Беларусі на пяць гадоў. Ванда разумела: паехаць следам за Язэпам — гэта значыць, пазбавіць дзяцей радзімы, Бацькаўшчыны, мовы, роднай школы. А ці магла яна, перакананая патрыётка, на гэта рашыцца?! Не і не! Але абставіны ў Мінску ўсё ўскладняліся. Працы ніякай. Адно дазволілі: пасудамыйкай у якойсьці рабочай сталоўцы на Камароўцы. А пасля

не выдалі Вандзе пашпарта. І сям'я, для якой Беларусь была і калыска, і песня, і дом, мусіць пакінуць усё роднае, звыклае, дарагое, спрадвечнае і кінуцца ад страху расправы ў белы свет. І назаўсёды! З імі ехалі Гарэцкія, Жылуновічы, Баліцкія... "Нас усіх,— згадвае Вандзіна дачка Алеся,— пагрузілі ў вагон. Мама плакала, развітваючыся з усім, што яе звязвала з маладымі гадамі".

Лёс Ядвігіна Ш., ягоных дзяцей нам з большага вядомы. А як жа склалася доля ягонай вечнай спадарожніцы, яго апякункі-жонкі?

З тае пары, як раскідалі Карпілаўку, карпілаўскае гняздо Лявіцкіх, ўвесь час жыла пры Вандзе, разам з ёй. Дзяліла з ёй радасць і гора, адчай і роспач. Разам з ёю, не з свае волі, доля ганяла іх з адной расійскай мясціны ў другую. Памерла 20 красавіка 1945 года.

Шмат драматычных старонак зведала яна за сваё жыццё. Не менш драматычныя былі і апошнія хвілі яе. У вайну Луцыі Гнатоўскай выпала жыць у Нежыне. Усім тады нялёгка даваўся кожны пражыты дзень. Лявіцкім яшчэ найцяжэй. Жылі яны ўсё ж, што ні кажыце, на чужыне, у нязвыклым для іх побыце. Адзін толькі абагрэў ім, звыклым да дроў, чаго каштаваў. Вайною ў Нежыне многія печы палілі чаротам. Ім абаграваліся і Лявіцкія. Гэты чарот, трэба сказаць, і звёў Луцыю Гнатоўскую без пары ў магілу. Неяк аднаго разу, палячы печ, яна тым чаротам, вострымі яго канцамі, падрапала нагу. Драпінка тая стала для яе фатальнай. Рана загнаілася. А тут кепскае харчаванне, і яна, аслабелая, праз колькі дзён памерла. Але на гэтым пакутлівая яе драма не скончылася. Не знайшлося дошак на дамавінку, то сплялі дамоўку з чароту і аеру. Так-сяк умацавалі яе аснову тоненькімі рэйкамі з разломанага стала, і гэтак пахавалі.

Луцыя Гнатоўская была каталічка. Але адпяваў яе, хаваў праваслаўны святар. Ён ведаў, што яна не з праваслаўных. Але што было рабіць? Ксяндза поблізу не знайшлі. Бацюшка ішоў да самай магілы. Ля магілкі яшчэ раз сказаў малітву і перадаў цела Луцыі зямлі на вечны пакой. Сам святар, паводле слоў Алесі Лёсік, быў з ссыльных і вельмі разумеў абставіны, у якіх ён мусіў ладзіць хаўтуры. Пэўна таму на магілцы шляхцянкі Луцыі Гнатоўскай не паставілі ні крыжа, ні якой інакшай памяткі. Ці думаў хоць калі Ядвігін Ш., што такая доля напаткае і яго сям'ю, і яго самога. Усе ж Лявіцкія зычылі людзям толькі дабра. Адзіная, хто належна ацаніла Луцыю Гнатоўскую, гэта Палута Бадунова. У сваіх успамінах, надрукаваных у зборніку-альманаху "Адраджэнне" 1922 года, яна, гледзячы, як Луцыя клапоцішча пра хворага мужа, называла яе гераічнай жанчынай. З гэтай нагоды яна пісала: "Добрым прыкладам можа паслужыць гэтая непрыкметная гераіня для тых жанчын, якія адрываюць сваіх мужоў

ад беларускай працы дзеля сваіх асабістых выгод. Не ўспомніць іх народ беларускі добрым словам, а такіх, як жонка Ядвігіна Ш., ніколі не забудзе ўдзячны наш народ".

Так думалася Палуце Бадуновай. Так яно і павінна было быць, ды гісторыя, як бачым, зрабіла зусім іншы зігзаг — нялюдскі, розуму непадуладны.

## КРЫНІЧКА

Праз сядзібу Лявіцкага зараз пралегла некалькі дарог і сцяжынак. Цяпер цяжка сказаць, ці ўсе яны былі пры жыцці самаго Лявіцкага, але адна з іх — тая, што да крынічкі вяла, дык пэўна ж была. Пачыналася яна, лічы, ад самага ганку і праставала праз сад да ручаінкі, якая віхляла-хавалася ў кустоўі з алешнікам. Вось тут і жыла струменілася, бруіла — карпілаўская крынічка. З яе Лявіцкія бралі ваду на ўсе свае патрэбы. Яе хапала на ўсё: і на варыва, і на лекі, і на лазню. З гэтай прычыны ў студні аніякай патрэбы не было. А звычайна ж, дзе крынічка, там і рачулка, ручаінка. Лявіцкія разумелі, што гэтая крынічка божы дар і шанавалі яе, як толькі можна шанаваць гэты дар.

З якой пары гэтая крынічка тут сталася, ніхто з Лявіцкіх не ведаў. Побач з ёй, з тым струменьчыкам, што цурчэў з набрынялага вільгаццю беражка, здавён-здаўна ляжаў і цяпер ляжыць невялікі амшэлы і вечна вільготны акруглы валунок. Трошкі воддаль ад яго — яшчэ адзін. Аднойчы, гледзячы на іх, падумалася, а ці не яны нарадзілі гэтую крынічку. Як? Ды вельмі проста: каціліся калісь, каціліся з Скандынавіі, з ледавіком, а мо нават і ляцелі дый плюхнуліся на гэты лапік, парушыўшы глебу, заглыбіўшы сваёй сілай яе — і тады ж з зямлі вырваўся той першы струмень, які і стаўся цудадзейнай крынічкай. А ўжо з крынічкі нарадзілася рачулка. Вельмі ўсё гэта верагодна.

Вада ў крынічцы чыстая, сцюдзёная, аж у зубы заходзіць, аж у скронях ломіць. Яе нават і мароз не бярэ. Яна такая сцюдзёная, што нават зімой не замярзае.

Крынічка, вядома, мае і сваё крынічча. Крынічкам тут называюць той лапік прасторы, што вакол крынічкі. Дык вось, зімою крынічка не замярзае. А з крынічкам усялякае бывае. Здараецца, і мароз яго прыхоплівае, тады з'яўляюцца вакол крынічкі дзівосныя лёдавыя мярэжы. Бывае, і снегам засыпле. Карпілаўскія людзі не раз бачылі, як з-пад снегу слупам валіла пара.

Карпілаўская крынічка слугавала дый слугуе не толькі людзям. Узімку звяры сюды прыходзяць на вадапой. Прылятаюць і птушкі піць. Можа, крынічкі прырода і стварыла, каб яны найперш слугавалі жывёлкам, якія нідзе ўзімку больш напіцца не могуць, як з жыватворных незамерзлых крынічак.

Крынічка з усіх бакоў атулена кустоўем, нахіленымі дрэвамі. Іх шаты густой страхой звісаюць над крынічкай, над крынiччам. Улетку тут заўсёды волка, вільготна. Дол крынічча набрынялы. Не, ён не балоцісты, не забалочаны. Наадварот, чыста вымыты. Трохі нават пясочкам засланы.

Я з карпілаўскай крынічкі ваду піў не менш як разоў з трыццаць. Гэта значыць, што я гэтулькі разоў наведваў сядзібу Ядвігіна Ш. Мне здавалася, што я ўжо тут усё ведаю, як свае пяць пальцаў. І пра крынічку таксама. Але памыліўся!

Аднаго разу надумаўся перайсці ручай ля крынічкі: хацеў паглядзець, што там далей за ручаём. Ступіў колькі крокаў, перайшоў яе па кладцы, аж бачу — зноў ручаінка. Зразумеў, я — на выспачцы... Вось дык дзіва! Разоў з трыццаць ці болей я тупаў ля крынічкі — лічы, пры кожным наездзе ў Карпілаўку, і толькі зараз угледзіў гэтую выспачку. Пачаў разважаць: сама прырода стварыла яе ці гэта рупнасць гаспадароў. Калі гэта паклапаціліся дбайныя гаспадары, то навошта, дзеля чаго? Мабыць, найперш дзеля ўкрасы, экзотыкі, а мо дзеля таго, каб вада не збіралася, каб сплыў мела, каб ў вады была свая кругаверць. Ва ўсякім разе, я зацікавіўся выспачкай, пачаў аглядаць яе. І што ж я ўбачыў? Выспачка сваімі абрысамі чымсь нагадвала абрыс Беларусі ў мініятуры. Вось гэта дык адкрыццё! Думаў, што мне аднаму гэта падалося. Пачаў паказваць ды расказваць іншым— і ўсе пагадзіліся, што падабенства такое ёсць. Але гэта яшчэ не поўны малюнак карпілаўскай крынічкі. Паблізу яе, на самым беражку крынічча векавы дуб. Крокаў праз пяць яшчэ напарнік яго ці напарніца. Фотапаратам гэтае хараство не ахапіць. Толькі мастак здатны паказаць на палатне аб'ёмна і ў дэталях карпілаўскую крынічку.

Калісь крынічка, пэўна, мела латок і іншы крынічны рыштунак — кладку, зрубік. Пасля ў Карпілаўцы, перад вайной, стаялі салдаты. То яны накінулі на карпілаўскую крынічку бетанаваны круг. Так яна і бруіць у тым бетанаваным крузе. Кажуць, тых вайскоўцаў у Карпілаўцы было ні то чатыры батальёны, ні то чатыры роты. То вады ўсім хапала. Нават на лазню.

Вядома ж, мне вельмі хацелася паслухаць каго-небудзь з тутэйшых людзей, як ім помніцца карпілаўская крынічка яшчэ да таго, як на яе

бетанаваны круг накінулі. І такіх людзей я напаткаў. Адна з іх Надзя Гаеўская. Яе згадка нечаканая, паэтычная. "Ой, што за крынічка была, сказала яна.— Не паверыце... Біла высока, а ўверсе рассыпалася, як рассыпаюцца кабеціны валасы..." Пачуўшы такое, змоўкнеш, здзівішся: "Няўжо такі быў цуд?" "Быў, гаворыць, вачэй было не адвесці, нахілішся над ёй, а яна апалошча цябе, аблашчыць." Было... Цяпер няма таго, што раней было." Цяпер паўз крынічку, праз крынічча зрабілі дарогу, раз'ездзілі тое крынічча, на трактарах ездзяць, разварочваюць яго". Гэта ўжо бядуе мастак і паэт Сяргей Давідовіч, які душой і сэрцам жыве ў Карпілаўцы. Шчыміць яму сэрца і за ўсю карпілаўскую сядзібу. Думае ён, гадае, што рабіць, каб паратаваць сядзібу Ядвігіна Ш. І паратуначку не бачыць. А паратуначак адзін: трэба, каб людзі апамяталіся, зразумелі, што ўсё, што вакол іх, — для іх.

Пакуль карпілаўская крынічка дорыць людзям божы дар. Ці сеюць дзесь паблізу, ці косяць — крынічка напоіць, натоліць смагу і касцоў, і сейбітаў. Поіць яна грыбнікоў, пастухоў і проста падарожных. Шануйма ж гэты дар! Усё на свеце можна аднавіць. Не аднаўляюцца толькі крыніцы і рачулкі.

З карпілаўскай крынічкі смакавалі ваду Максім Багдановіч, Зоська Верас, Уладзіслаў Галубок, Змітрок Бядуля, Палута Бадунова, Янка Купала, Аляксандр Уласаў і шмат-шмат хто іншы. Карпілаўская крынічка занесена ў спіс гісторыка-культурных прыродных каштоўнасцяў. Смак яе вады памятаецца і дзвюм унучкам Ядвігіна Ш. Люцыі і Алесі, якіх ліхая доля з-за лёсу іхняга бацькі загнала жыць далёка ад Беларусі: адну ў Ліпецк, другую ў Татарку на Стаўрапальшчыне. Карпілаўская крынічка ім адно хіба толькі цяпер сніцца!

Карпілаўка... Селішчаў з такой назвай на Беларусі шмат. Карпілаўка пад Жлобінам... Карпілаўка пад Гомелем. З яе, згадаем, паходзіў Анатоль Грачанікаў, беларускі чыгуначны інжынер і паэт. Карпілаўка ля Рудабелкі. Ёсць свае Карпілаўкі на Чэрвеньшчыне, Уздзеншчыне... Карпілаўка Ядвігіна Ш. пад Радашкавічамі, а можна лічыць і пад Мінскам. Ад Мінска да Карпілаўкі Ядвігіна Ш. усяго толькі 35 кіламетраў.

Шмат Карпілавак на Беларусі. Найчасцей яны гнездзяцца поблізу прадмесцяў, мястэчак і гарадоў. Чым жа гэта вытлумачыць? Хто яго ведае. Можа і ў Карпілаўках сяліліся людзі якойсьці асобай сацыяльнай праслойкі — рупліўцы, якія рупна карпелі на сваіх сялібах, на сваіх сядзібах, таму і іхнія селішчы называлі Карпілаўкамі. Што да Лявіцкага, да Ядвігіна Ш., то ён і напраўду шмат пакарпеў,

каб ягоная сядзіба была ў гармоніі з прыродай, суладная з ёй, каб яна цешыла і радавала вока. І не толькі ягонае, але і суседскае, акалічных сялянаў і гаспадароў. А ўзоры гэтай гармоніі ён бачыў праз усё жыццё — з народзінаў, з маленства і не мог інакш жыць і дбаць як жыў, як дбаў.

Сядзіба Ядвігіна Ш. цяпер экзатычная. Яна нагадвае джунглі. Яе аблюбавалі для сваіх здымак кіношнікі ды тэлевізійнікі. Некалькі тэлевізійных нарысаў яны знялі тут і пра колішняга гаспадара Карпілаўкі Ядвігіна Ш.

Мусіць, не ўсе ведаюць, што галоўная вуліца сталіцы — Скарынаўскі праспект — абсаджана ліпамі з пісьменнікавай сядзібы. А вось само пісьменнікава імя ў сталіцы пакуль ніяк не ўшанавана, не ўганаравана. Такая наша памяць. Такая наша, ўдзячнасць, adnaMy з тых, хто, кажучы Купалавымі словамі, клікаў з цемры да святла.

## НА НІВЕ ЛІТАРАТУРНАГА КРАЯЗНАЎСТВА

Спазнаючы ў школе Льва Талстога і Івана Тургенева, і шэраг іншых рускіх пісьменнікаў-класікаў, мы добра ведаем, запамінаем назовы, ды і само аблічча мясцінаў, дзе былі напісаны выдатпныя творы. А вось, ведаючы імёны Мележа, Быкава, Барадуліна, пра іх родныя селішчы мала што і ведаем. Што ўжо казаць пра вёскі-радзініцы, пра літаратурныя і мастацкія сядзібы XIX стагоддзя! Няведанне, прабелы ў гісторыка-літаратурнай памяці — усё гэта зусім не на карысць асветніцтву, масаваму чытацкаму спасціжэнню айчыннай літаратуры. Але і ў нас з часам знаходзіцца ўсё болей рупліўцаў, якія выходжваюць, аглядаюць мясціны, што паспрыялі фарміраванню сапраўдных талентаў. Адзін з такіх руплівых, энергічных краязнаўцаў, які ўжо некалькі дзесяцігоддзяў запар крочыць ім самім абранымі сцежкамі, які з дня ў дзень збірае па крупінках літаратурную памяць Беларусі,— Уладзімір Содаль.

Адкуль ён узяўся, адкуль такая яго неверагодная апантанасць у імя Беларусі? Да 60-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра Содаля газета "Голас Радзімы" надрукавала невялікі, але досыць змястоўны артыкул жлобінскага журналіста Міколы Шуканава — "Адсюль пачаліся яго дарогі". Колькі цытатаў з гэтай публікацыі: "Мы, канешне, не можам не задацца пытаннем: пры якіх абставінах Уладзімір Содаль пачаў пісаць. Сам ён гэта тлумачыць так: "У першай палове пяцідзесятых гадоў у Мормальскай школе панавала якоесь незвычайнае захапленне друкам. У газеты пісаў шмат хто. Для нас было падзеяй атрымаць нават адказ з рэдакцыі. Вось на гэтай хвалі пачаў і я пасылаць свае

допісы ў розныя выданні." І далей: "Не кінуў Уладзімір Содаль пісаць і пасля заканчэння школы, калі працаваў загадчыкам клуба і бібліятэкі. Пісаў ён дзённікі, у раённы друк, у "Гомельскую праўду", не раз турбаваў і мінскія газеты. Канешне, пісаў і вершы. Ды, як гэта звычайна, ў такой сітуацыі бывае, дапісаўся. За праўду і прынцыповасць мясцовае начальства проста выжыла юнака з роднай вёскі. І падаўся малады хлопец у 1956 годзе аж у Мурманск і ўсю дарогу імкнуўся адказаць на пытанне: "Што я там забыўся?"

Пачаўшы з сціплых газетных допісаў, Уладзімір Содаль доўга ішоў да першай сваёй кнігі — "Людзьмі звацца". Пабачыла яна свет у 1977 годзе. Праз пяць гадоў.— новая кніжачка: "Пуцявінамі сейбіта". Ужо першыя сур'ёзныя наробкі акрэслілі выбар літаратара — даследаванне літаратурнай гісторыі, беларускае літаратурнае краязнаўства. Заўважым, што праца гэтая магла зацягнуць у свой вір толькі чалавека ўражлівага, душэўнага, калі хочаце, самаахвярнага. Тым болей, што, пачаўшы з 1967 года працаваць на тэлебачанні, Уладзімір Содаль мог бы так і застацца тэлевізіёншчыкам. Але чалавеку хацелася ісці далей, рупіцца, прычына тут ці не найгалоўнейшая — улюбёнасць у свае роднае, нацыянальнае, беларускае. Паслухаем, аднак, самаго Содаля: "Беларуская мова па духу сваім была і будзе гаспадыняй на Беларусі. А ўсё іншае, што мецьме рабіцца на нашай зямлі не на беларускай мове, асабліва там, дзе паводле самой прыроды і сутнасці павінна гучаць беларуская мова, заўсёды будзе ўспрымацца як гвалт, ненатуральнасць.

...Пра тое, як жыў і жыве беларускі народ, заўсёды меркавалі і будуць меркаваць не па тых, хто адмаўляе, ігнаруе беларушчыну, грэбуе ёй, не прызнае, а па тых, хто яе стварае, рупіцца, хто рухаў і рухае беларускую ідэю, развіваў і развівае яе.

Усе ж іншыя, хто сваім ідэалам зрабіў выгоды жывата, гэтак і застануцца па-за нашай гісторыяй. Ад іх не застанецца ні пуху, ні духу, хоць ім і здаецца, што гэта яны творцы жыцця, яго пуп. Яны забываюцца, што ад чалавека застаецца дух, а не пух."

Карпілаўка — фальварак Ядвігіна Ш. Мясціна, якую проста немагчыма выкрасліць з гісторыі беларускай літаратуры канца XIX — пачатку XX стагоддзя. На жаль, яшчэ зусім нядаўна яе ўвагай часцей якраз і абыходзілі. У "Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі" месца на артыкульчык пра Карпілаўку не знайшлося. Праўда, у купалаўскай энцыклапедыі хоць сціпла, але згадана, што Карпілаўка знаходзіцца на Лагойшчыне.

Цёплая, адухоўленая новая кніга Уладзіміра Содаля займае пачэснае месца сярод гісторыка-дакументальных расповядаў пра беларускія літаратурна-мастацкія сядзібы.

*Алесь Карлюкевіч, краязнаўца, галоўны рэдактар газеты "Чырвоная змена".*